№ 24 (718) 22 чэрвеня 2011 www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## У Мінску будуюць новую рэзідэнцыю?

Старонка 2



## За Пятровіча

Старонка 6



## Мінск — горад-шанец

Старонка 11

### Тэндэнцыі

## Дагуляліся

ЕС увёў санкцыі супраць кампаній Пефціева і латарэй Прэзідэнцкага спартовага клуба.

Міністры замежных справаў краін Еўрасаюза на сустрэчы ў Люксембургу пашырылі санкцыі супраць лукашэнкаўцаў. Яны замарозілі рахункі «трох кампаній, звязаных з рэжымам».

Гэтае рашэнне прынятае з мэтай узмацнення фінансавага ціску на беларускія ўлады, каб вымусіць іх спыніць рэпрэсіі і нармалізаваць адносіны з ЕС. Вырашана таксама дадаць у спіс 188-мі неўязных у ЕС беларускіх службоўцаў яшчэ некалькі бізнэсоўцаў.

Такім чынам, еўрапейскія санкцыі ўпершыню закрануць бізнэс: пад іх дзеянне падпадае набліжаны да Лукашэнкі бізнэсовец Уладзімір Пефціеў і ягоная фірма «Белтэхэкспарт» (гандаль зброяй), а таксама маркетынгавая фірма «Спорт-пары».

Сузаснавальнікам «Спорт-пары» з'яўляецца Прэзідэнцкі спартовы клуб, які ўзначальвае Дзмітрый Лукашэнка, сын кіраўніка Беларусі.

Працяг на старонцы 3.

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

## Апладысменты пратэсту



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Людзі проста выходзяць на цэнтральныя плошчы і гуляюць. А іншыя сядаюць у машыны, ездзяць вакол плошчаў і сігналяць.

Ідэя такой незвычайнай формы пратэсту нарадзілася ў сацыяльных сетках.

Калі нехта выходзіць з лозунгамі, яго адразу ж хапаюць. Таму інтэрнаўты прыдумалі: проста выходзіць і гуляць. Прычапіцца няма да чаго. Дый для здароўя карысна. **Старонка 8.**

Нагадаем: «Нашай Ніве» і «Народнай Волі» пагражае закрыццё.

## Што рабіць чытачам?

**Старонка 7.**

## Прывед, мядзвед!



**19 чэрвеня, на дзень народзінаў Васіля Быкава, у яго роднай вёсцы Бычкі адбывалася ўручэнне прэміі «За свабоду думкі». Святкаванне здымалі не толькі журналісты, але і «аперататары ў цывільным». А грамадскія актывісты карысталіся выпадкам зрабіць з імі «фота на памяць». Культура — старонка 11.**

## Кітайская мадэль?

Улады могуць спыніць свабодную куплю валюты грамадзянамі.

Аналагічная забарона дзейнічае ў Кітаі, — заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» эксперт у банкаўскіх колах, знаёмы з прынцыпамі рэгулявання валютнага рынку ў КНР.

«Высокая ацэнка рэкамендацый экспертаў кітайскага Цэнтрабанка з боку кіраўніцтва Беларусі дае магчымасць выказаць здагадку, што на беларускі валютны рынак дэ-факта можа быць перанесеная дзейная ў Кітаі забарона на свабодную куплю замежнай валюты фізічнымі асобамі», — сказаў суразмоўца.

Пры гэтым ён сумняваецца, што такую забарону замацуюць юрыдычна.

Праблемы з валютай пачаліся ў краіне пасля выбараў.

**Сяргей Гезгала, паводле «Інтэрфакс-Захад»**

| Валюта | Курс да даляра на 01.01.1998 | Курс да даляра на 22.06.2011 | Змена курса |
|---|---|---|---|
| Літ | 4 | 2,4 | Вырас на 67% |
| Злоты | 3,53 | 2,78 | Вырас на 27% |
| Грыўна | 1,9 | 7,97 | Упаў у 4,2 разу |
| Расійскі рубель | 5,96 | 28 | Упаў у 4,7 разу |
| Беларускі рубель | 30 740 | 4 970* | Упаў у 162 разы |

*без уліку дэнамінацыі 2000 года курс даляра складаў бы 4 970 000 беларускіх рублёў

# У Мінску будуюць новую рэзідэнцыю?

**Пра гэта даўно ходзяць чуткі, цяпер з'явіліся і рэндары праекта запланаванага будынка. А на пляцоўцы каля «БелЭкспа» пачалася пракладка інжынерных камунікацый.**

Вялікая будоўля намецілася на беразе Свіслачы ў трохкутніку між праспектам Пераможцаў, вуліцай Арлоўскай і Свіслаччу. Там можа паўстаць новая рэзідэнцыя. Як мяркуецца, у склад новага комплексу ўвойдзе абноўлены будынак «БелЭкспа». Рэканструкцыя ўжо закранула яго, як і паркавую тэрыторыю на вуліцы Арлоўскай і праспекце Пераможцаў. Сам палац запраектаваны на беразе Свіслачы. Нядаўна гэтую зону назвалі Паркам перамогі. Адлегласць адсюль да Драздоў складае каля 2,5 км.

Праект склала УП «Белпраект». У інтэрнэце з'явіліся рэндары праекта. На іх — квадратны будынак з дзясяткам калон на ўваходзе, перад якім запусцяць фантаны.

Рабочыя, што працуюць над рэканструкцыяй комплексу «БелЭкспа», кажуць, што гэты будынак будзе прызначацца для ганаровых прыёмаў. За ім будзе парк з алеяй і фантанам, сярод якога і будзе стаяць новая рэзідэнцыя, мяркуюць яны.

Інфармацыя, якая надрукаваная на пашпарце аб'екта, кажа, што пакуль што праводзіцца «рэканструкцыя інжынерных сетак і збудаванняў», якая павінна быць скончаная ўжо ў верасні. Пра рэзідэнцыю пакуль што тут ні слова, хоць звесткі пра яе праектаванне з «Белпраекта» надыходзілі даўно. Аднак пачатак працаў трапіў на няўдалы момант: краіна пагрузілася ў фінансавы крызіс.

**Сяргей Гезгала**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Паміж «Белэкспа» і Свіслаччу — вялікая будпляцоўка.**







**Праект новай рэзідэнцыі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Згодна з праектам, будынак «Белэкспа» будзе выкарыстоўвацца для ганаровых прыёмаў.**

## Сцісла

• **Кудрын: у Беларусь пераведзены першы транш крэдыту ЕўрАзЭС памерам $800 млн.** Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС ухваліў выдзяленне крэдыту для Беларусі памерам $3 млрд у пачатку чэрвеня. Прыватызацыя беларускіх актываў на $7,5 млрд за тры гады засталася адной з умоў крэдыту.

• **Сядзібу БНФ высяляюць — рашэнне канчатковае.** Касацыйная калегія Мінскага гаспадарчага суда пакінула без змены рашэнне пра высяленне сядзібы БНФ на праспекце Машэрава, 8. Актывісты адмаўляюцца вызваляць памяшканне. Яны арганізавалі кругласутачнае дзяжурства.

• **Прадпрымальнікі «Чэрвеньскага» перамаглі.** «Чэрвеньскі рынак» не будзе ліквідаваны. Прадпрымальнікам чыноўнікі Мінгарвыканкама паведамілі, што рынак атрымае новую пляцоўку ў Ленінскім раёне сталіцы. А вось на месцы старога рынку іранская кампанія збудуе гандлёва-забаўляльны комплекс.

• **Новы абвінавачаны па справе 19 снежня?** Чарговы падазраваны — Святаслаў Барановіч. Быў затрыманы 15 чэрвеня і змешчаны на Акрэсціна.

• **Літоўцы будуць выдаваць беларусам візы за сімвалічную плату.** Пра гэта заявіў міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс. «Буду рабіць усё, каб рашэнне прынялі як мага хутчэй. Каб ужо летам грамадзяне Беларусі маглі скарыстацца гэтай магчымасцю», — сказаў міністр.

• **Міліцыя праверыць шоу порназоркі Самбукі ў Мінску.** Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ажыццяўляе праверку па факце арганізацыі і правядзення ў мінскім клубе Broadway ноччу 18 чэрвеня шоу расійскай мадэлі, спявачкі і порназоркі Каці Самбукі. Мяркуючы па інфармацыі ў інтэрнэце, яно было больш чым адкрытым, з лесбійскім шоу і фалаімітатарамі. Па выніках праверкі будзе дадзена прававая ацэнка гэтаму, заявілі ў МУС. Гледачамі шоу была больш чым тысяча асобаў.

• **Надышло астранамічнае лета.** Яго прыход звязаны з наступленнем летняга сонцастаяння 22 чэрвеня, калі сонца днём знаходзіцца ў самай высокай кропцы, дзень становіцца самым доўгім, а ноч — найкарацейшай. У ноч з 23 на 24 чэрвеня традыцыйна адзначаецца Купалле.

**СМ**

## Самае чытанае на nn.by за 15—21 чэрвеня

1. Народ разгуляўся: сотні людзей на вуліцах Мінска
2. ТОП-10 выказванняў Аляксандра Лукашэнкі на прэс-канферэнцыі
3. Расійскі Першы канал: Беларуская ўлады страцілі пачуццё рэальнасці
4. Лукашэнка: Калі будзе катастрофа, то закрыем мяжу і адмовімся ад імпарту
5. Вечар апладысментаў: народныя гулянні ў Мінску — відэарэпартаж
6. Беларуская міліцыя не ведае, як пішацца слова «милиция». Фотафакт
7. У Мінску будуюць новую рэзідэнцыю? + фоты і рэндары праекта
8. Мапа актыўнасці народных гулянняў — інфаграфіка
9. «Россия»: Маўклівы пратэст беларусаў красамоўнейшы за словы
10. Карыстальнікаў сацыяльных сетак паставілі на прафілактыку

# Дагуляліся

Працяг са старонкі 1.

Трэцяя фірма — гэта «БТ Тэлекамунікацыі» — генеральны спонсар Прэзідэнцкага спартовага клуба. А зусім не РУП «Белтэлекам» — нацыянальны аператар тэлекамунікацый, — як тое спачатку напісалі некаторыя інфармацыйныя агенцтвы.

На сайце Прэзідэнцкага спартовага клуба пішацца, што «ПУП «БТ Тэлекамунікацыі» ўдзельнічае ў рэалізацыі шэрагу буйных інвестыцыйных праектаў, у тым ліку звязаных з рэалізацыяй і фармаваннем высакаякаснай інфраструктуры для правядзення ў 2014 годзе ў Рэспубліцы Беларусь сусветнага першынства па хакеі».

Што да Пефціева, то брусэльскае выданне Euobserver.com называе яго «прыватным банкірам Аляксандра Лукашэнкі». Афіцыйна Пефціеў узначальвае беларускую кампанію-экспарцёра ўзбраенняў «Белтэхэкспарт» і беларускую Федэрацыю тэніса. Выданне выказвае меркаванне, што ён таксама трымае частку акцый мабільнага аператара прадпрыемства Velcom, «Прыёрбанка» і «Знешэканамбанка». Часопіс Forbes у 2010 годзе назваў яго другім пасля Аляксандра Лукашэнкі па багацці чалавекам Беларусі, ацаніўшы ягоную ўласнасць на 1 мільярд даляраў.

Еўрасаюз таксама ўвёў эмбарга на пастаўку ў Беларусь зброі і матэрыялаў, якія могуць выкарыстоўвацца для падаўлення грамадства.

Рада Міністраў ЕС адзначыла тры галоўныя праблемы. Найперш гэта палітычны пераслед, у тым ліку зняволенне экскандыдатаў у прэзідэнты. У тым ліку Рада выказвае «сваю глыбокую заклапочанасць у сувязі з паведамленнямі аб катаваннях і іншых формах жорсткага абыходжання ў беларускіх турмах і настойліва заклікае ўлады паважаць міжнародныя абавязацельствы, што ўзяла на сябе Беларусь, у прыватнасці, поўную забарону на прымяненне катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага абыходжання».

Па-другое, гэта парушэнні права на свабоду слова. ЕС згадвае іскі на закрыццё «Нашай Нівы» і «Народнай Волі», закрыццё «Аўтарадыё» і суд над Пачобутам. Па-трэцяе, і гэта даволі нечакана, ЕС «заклікае Беларусь паважаць нормы дыпламатычнага імунітэту... і спыніць запалохванне і пераслед» дыпламатычнага персаналу краін ЕС у Беларусі. Магчыма, існуюць нейкія факты, пра якія беларускія СМІ не ведаюць.

Рада Міністраў ЕС заяўляе, што ў выпадку пагаршэння сітуацыі гатовая разглядаць пытанне «аб далейшых кропкавых мерах ва ўсіх галінах супрацоўніцтва па меры неабходнасці».

Міністр замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі паведаміў у сваім твітары пасля прыняцця рашэння пра санкцыі: «Мы ўхвалілі эмбарга на гандаль зброяй і замарозілі актывы фірмаў, якія фінансуюць Лукашэнку. Ён мусіць выбраць дарогу: да дэмакратыі або ў Гаагу».

**Мікола Бугай**


Уладзімір Пефціеў.
PHOTO.BYMEDIA.NET

---

# Што такое «Спорт-пары» і чым яно валодае?

Закрытае акцыянернае таварыства «Спорт-пары» зарэгістравана 6 верасня 2007 года і з'яўляецца першым аператарам электронных інтэрактыўных гульняў на тэрыторыі Беларусі.

Сузаснавальнікамі «Спорт-пары» былі беларуска-англійскае прадпрыемства «Дзелавая сетка», Прэзідэнцкі спартовы клуб (узначальвае сярэдні сын Лукашэнкі — Дзмітрый), а таксама ПУП «СЕН-КО».

На сёння першыя двое застаюцца акцыянерамі таварыства. Таксама да іх далучаецца ПУП «БТ Тэлекамунікацыі».

Да «Спорт-пары» належаць наступныя латарэі: «Спортлато 5 з 36», «КЕНА», «Спортпрагноз». Сімвалам таварыства з'яўляецца сава.

Таксама ў Беларусі існуюць латарэйныя кампаніі «Беларускія латарэі» (праводзіць перадачу «Ваша лато») і «Нацыянальныя спартыўныя латарэі» («Суперлато»).

Іронія лёсу, што 8 чэрвеня, менш чым за два дні да таго, як міністры замежных справаў краін Еўрасаюза прымалі эканамічныя санкцыі па Беларусі, у Хельсінкі на Генеральнай асамблеі Еўрапейскай латарэйнай асацыяцыі «Спорт-пары» было прынятае ў гэтую арганізацыю. Асацыяцыя аб'ядноўвае 70 нацыянальных латарэй еўрапейскіх краін.

«Дадзены факт выразна сведчыць пра міжнароднае прызнанне «Спорт-пары», празрыстасці гульнявых тэхналогій, давер да палітыкі, што праводзіць кампанія», — пісалася ў матэрыяле на сайце Tut.by.

Паведамляецца, што «Спорт-пары» з'яўляецца кандыдатам на ўступленне ў Міжнародную латарэйную асацыяцыю. 20 чэрвеня супраць таварыства ўведзеныя санкцыі Еўрасаюза. Гэта значыць, што міжнародныя рахункі кампаніі будуць за блакаваныя.

З выхадам на міжнародны ўзровень «Спорт-пары» давядзецца пачакаць.

**ЗП**

---

# Лукашэнка: Будзе катастрофа — закрыем мяжу

17 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка даў прэс-канферэнцыю для беларускіх СМІ.

Хай і ў крыху закамуфляванай форме, але кіраўнік Беларусі адказаў на галоўныя пытанні.

З недзяржаўных СМІ на сустрэчу былі запрошаныя радактары «Белорусов и рынка» і tut.by. Нават агенцтва БелаПАН не акрэдытавалі. «Нашу Ніву» — таксама не.

Дзяржаўным журналістам ці не ўпершыню далі дазвол задаваць не толькі кампліментарныя пытанні, але і адносна бягучай эканамічнай сітуацыі, складаных адносін з Расіяй, пратэстаў моладзі і чаўнакоў.

Лукашэнка паабяцаў, што цягам бліжэйшых двух месяцаў краіна павінна выйсці з крызісу (у красавіку называлася лічба: бліжэйшых тыдняў). Тым не менш, не адкінуў магчымасць і горшага развіцця падзей. «Калі будзе катастрофа, то закрыем мяжу і адмовімся ад імпарту, будзем набываць толькі неабходнае. Не дай Бог, канечне. Але ў нас будзе сваё».

Лукашэнка сказаў, што рэфармавання эканомікі не будзе, бо для гэтага яму трэба трыльён даляраў. Калі нехта гэтыя грошы дасць, то ён гатовы.

«Калі хочаце запытацца, ці будзе валюта ў абменніках? Не будзе, а можа будзе, калі людзі панясуць яе ў абменнікі. Да 1 ліпеня я ў гэтыя гульні не гуляю», — зазначыў ён.

У цэлым Лукашэнка паабяцаў памалу выходзіць на папярэдні ўзровень жыцця. Пры гэтым ён зазначыў, што ранейшых тэмпаў развіцця эканомікі, будаўніцтва ўжо не будзе. «Магчыма, яны і не патрэбныя», — зазначыў ён.

Была агучаная задача выхаду на 10—12 мільярдаў даляраў золатавалютнага запасу. Сёння ён складае 3,5 мільярда. Хутчэй за ўсё гаворка вядзецца пра продаж акцый «Беларуськалія» і «Белтрансгаза». «Калі гэта атрымаецца, то патрэба ў крэдытах адпа-дзе», — сказаў Лукашэнка. Што датычыць крэдытаў МВФ, то «калі будуць выпучаць палітычныя патрабаванні, то ці трэба яны нам».

Ён папікаў былых урадоўцаў, якія раяць цяпер уладзе, як выйсці з крызісу. У прыватнасці, успамінаў Сяргея Лінга і Станіслава Багданкевіча.

Пра Расію Лукашэнка гаварыць не захацеў. «У мяне і так многа праблем. Разумныя людзі ўсё разумеюць», — шматсэнсоўна сказаў ён.

Лукашэнка таксама намякнуў, што гатовы разглядаць пытанне пра вызваленне палітвязняў: «Ды не будзем мы іх у гэтай турме трымаць. Вельмі дорага». «Занадта гэта вялікі гонар для іх — апаганьваць турмы, там дастойныя людзі сядзяць».

Ён сказаў, што вызваленне можа адбыцца, калі пра тое папросіць міністр замежных справаў або грамадскасць, у прыватнасці, Беларуская асацыяцыя журналістаў. Пры гэтым ён сказаў, што ў нас «не 180», «у нас жа толькі тры чалавекі асуджаныя: Саннікаў, Ус і Статкевіч».

На пытанне tut.by Лукашэнка выказаўся па сітуацыі з незалежнымі СМІ, якія пад пагрозай закрыцця.

«У 21-ы раз просіце дараваць, колькі можна? Парушыў закон — адказвай. Можа, ім выставяць матэрыяльны пазоў, няхай плацяць. Я вельмі шкадую, што «Ніва» стала зусім не той нівай. Гэта адмарожаная прэса. Нельга рабіць рэйтынг на горы». «Калі ад майго меркавання нешта бу-дзе залежыць, то я ўлічу і ваша меркаванне. Але вы не ўзялі пад сваю гарантыю. Не хочаце, бо не будуць рабіць», — казаў ён журналістцы, якая спрабавала бараніць незалежныя СМІ.

«Хай у судзе разбяруцца, — такім было ягонае рэзюмэ. — А потым, калі нешта будзе ад мяне залежаць...»

**ЗП**

## Пяць афарызмаў ад Лукашэнкі

«У рэшце рэшт трэба ісці да таго, каб там была хаця б вечарам цёплая вада, каб даярка ці свінарка, адпрацаваўшы на ферме, прыйшла дадому, маладая дзяўчына ці жанчына да мужыка ў ложак клалася памытай».

«Вельмі вялікі гонар ім [палітвязням] — апаганьваць турмы. Там сядзяць дастойныя людзі».

«З чаго пачыналася Палессе? Тозік прасякаў прасеку і клалі там трубу. У першы год прэзідэнцтва, калі на Палессе прыехаў, то там яшчэ ў лапцях хадзілі».

«Бізнесменамі сёння сталі ўсе: і жаб, і кракадзіл».

«Вось як мы ідзём спакойна, так і пойдзем. А потым — паскорымся. Больш я сказаць вам проста не магу і не маю права. Не таму, што я цямню. Таму, што нам трэба дакладней выбраць курс, ці выхад з балота, у якое мы трапілі».

---

# Лябедзька: Апазіцыя можа з'яднацца цягам бліжэйшых тыдняў

Такі прагноз зрабіў Старшыня Аб'яднання грамадзянскай партыі

**«НН»: На чым грунтуюцца Вашы высновы?**

**Анатоль Лябедзька:** На шматлікіх двухбаковых і шматбаковых размовах і кансультацыях. На гэта ёсць палітычная воля і жаданне. Гаворка ідзе пра каардынацыю і ўзаемадзеянне ўнутры апазіцыі. Трэба толькі аформіць гэта. Ні адна сур'ёзная палітычная сіла не супраць гэтага.

**«НН»: А які будзе фармат? Сустаршынства ці адзіны лідар?**

**АЛ:** Рана пра гэта яшчэ гаварыць. Амбіцыі цяпер у людзей не лезуць праз край. Некаторыя людзі зразумелі, што лідарства — гэта не толькі інтэрв'ю і святло сафітаў, але і адказнасць, наступствы. Лідар павінен быць абраны пры вялікай колькасці людзей. Магчыма, каб у гэтай працэдуры змог паўдзельнічаць кожны грамадзянін краіны.

**«НН»:** Наконт фармату ўдзелу ў парламенцкіх выбарах ужо кансультаваліся?

**АЛ:** Усе сыходзяцца ў меркаванні, што найлепшым рашэннем будзе супольнае. Незалежна ад таго, ці гэта будзе байкот, ці ўдзел, ці нейкая больш складаная схема.

**«НН»: Калі пра новае аб'яднанне можа быць заяўлена?**

**АЛ:** Цягам бліжэйшых тыдняў.

**Гутарыў ЗП**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Даступнае жыллё

**Каб пабудаваць 1-пакаёвую кватэру з крэдытам, трэба мець заробак, большы за 6 мільёнаў.**

Афіцыйная адмена рашэння №101 Мінгарвыканкама карэнным чынам змяніла дыспазіцыю на рынку нерухомасці сталіцы. Нагадаем, што дзякуючы гэтаму дакументу мінчукі маглі будаваць кватэры, маючы стартавы капітал у $5—15 тысяч. Цяпер самая выгадная магчымасць для будаўніцтва сваёй кватэры згублена.

За час існавання дакумента кватэры змаглі пабудаваць каля 5 тысяч сем'яў (2–3 тысячы чалавек за год), якія адстаялі ў чарзе менш за 20 гадоў. Нават калі ўлічыць, што сярэдні памер такога крэдыту складаў каля $40 тысяч, агульныя выдаткі дзяржавы не перавышалі $100 мільёнаў штогод. Іншая рэч, што ў сувязі з дэвальвацыяй папулярнасць такіх крэдытаў рэзка пайшла ўверх – беларусы разумелі, што аддаваць крэдыт у рублях бу-дзе нескладана.

Размовы пра адмену рашэння № 101 вяліся яшчэ год таму, нават называўся нібыта дакладны час — май, але ў перадвыбарчы год дзяржава не рашылася крыўдзіць жыхароў сталіцы.

## Жыллё для мільянераў

Цяпер на рынку нерухомасці застаюцца 17%-ныя крэдыты для тых, хто стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, і 25–26%-ныя для ўсіх астатніх. Але пабудаваць за іх кватэру надзвычай складана. Дэкларацыі на новыя дамы ўтрымліваюць цэннік каля 5,2—7 мільёнаў за квадратны метр, прычым гэта цэны ад дзяржаўных кампаній, у панэльных дамах. У прыватнікаў і ў цагляных будынках цэны яшчэ большыя. Аднапакаёвая кватэра плошчай 45 квадратных метраў (меншых цяпер амаль не будуюць) каштуе каля 250 мільёнаў рублёў. Паколькі крэдыт можа быць выдадзены толькі на 75% ад кошту жылля, крэдытная лінія мусіць скласці 190 мільёнаў рублёў. Але якім павінен быць заробак беларуса, каб банк выдаў такія грошы?

Для нас правялі прыблізныя падлікі. Атрымалася, што заробак павінен складаць 6,4 мільёна рублёў! Вядома ж, у сукупны даход можна ўключаць заробкі сваякоў — жонкі/мужа, працаздольных бацькоў ці дзяцей, а таксама братоў ці сясцёр. Выплаты па крэдыце будуць змяняцца, але найбольшыя плацяжы будуць перавышаць 3 мільёны рублёў штомесяц.

## Забудоўшчыкі ў сваім крызісе

Эканамічны крызіс паставіў пад пагрозу існаванне многіх забудоўшчыкаў, якія сталі закладнікамі сітуацыі. Цяперашнія дамы павінны быць дабудаваныя па старых цэнах, нягледзячы на падаражанне будаўнічых матэрыялаў. Рэзкае зніжэнне прыбытку забудоўшчыкаў разам са спыненнем ільготнага крэдытавання пагражае змяншэннем колькасці дамоў, што будуюцца ў сталіцы. Зрэшты, менавіта такой мэты дабіваюцца ўлады, заяўляючы, што новага жылля ў Мінску не павінна быць шмат. Яны хочуць, каб людзі мігравалі са сталіцы ў рэгіёны і вёску.

## Шляхі выйсця

Але рынак нерухомасці ўсё адно не можа памерці вокамгненна. Якія варыянты вырашэння кватэрнага пытання яшчэ застаюцца ў беларусаў, апроч агромністага крэдыту пад 25—26%?

**Чакаць сваю чаргу.** Самы доўгі варыянт падыходзіць для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, але не тэрмінова. Цяпер прапановы будавацца атрымліваюць людзі, якія сталі ў чаргу ў 1988—1989 гадах.

**Чакаць падзення другаснага рынку.** На працягу апошніх месяцаў колькасць заключаных угодаў з продажам кватэр зменшылася ў некалькі разоў. Людзі не маюць грошай на куплю, таму прадаўцы вымушаныя зніжаць цану.

**Стаць шматдзетнай сям'ёй.** Пры такім варыянце дзяржава гатовая пракрэдытаваць будаўніцтва ці пакупку кватэры пад 14% гадавых. Больш за тое, дадатковыя льготы зменшаць памер выплат.

**Шукаць месца жыхарства па-за межамі Мінска.** У абласных і раённых цэнтрах чарга рухаецца нашмат хутчэй, чым у сталіцы, дый кошт квадратнага метра ніжэйшы.

**Выйграць кватэру ў латарэі.** А што? Некаторым дапамагае і такі варыянт. Латарэйны білет «Ваша лато» каштуе 4 тысячы рублёў, праўда, шанс перамагчы складае ўсяго 0,000015%.

**Яўген Васількоў**

# Беларускія прадпрыемствы сталі прадаваць праз IPO. Гэта як?

**Акцыі будуць размешчаныя на біржы. Купіць могуць усе ахвотныя.**

Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў абвясціў пра адкрытае размяшчэнне акцый на біржавым рынку. Гэта першы выпадак правядзення IPO у Беларусі.

IPO — першапачатковая публічная прапанова акцый кампаніі на продаж. Пры гэтым маецца на ўвазе, што кампанія ўпершыню выводзіць свае акцыі на біржу, прапануючы іх неабмежаванай колькасці асобаў.

На продаж выстаўляецца 125 500 акцый, што складае каля 15% статутнага фонду прадпрыемства. Мяркуецца прыцягненне сродкаў ад айчынных і замежных інвестараў. Продаж акцый рэзідэнтам Беларусі будзе ажыццяўляцца ў беларускіх рублях, нерэзідэнтам — у расійскіх рублях, далярах і еўра па афіцыйным курсе. Кошт адной акцыі — 476 010 рублёў. Пачатак продажу акцый — 29 чэрвеня, заканчэнне — 12 ліпеня.

Генеральны дырэктар завода Аляксандр Фандо мяркуе, што 100%-ная доля дзяржавы ў статутным фондзе адпужвае інвестараў, таму прадпрыемства павінна стаць звычайным акцыянерным таварыствам, дзе будзе прысутнічаць і дзяржаўная, і прыватная ўласнасць.

Наступнай арганізацыяй, якая выстаўляе свае акцыі на продаж, стане EPAM Systems. 10 чэрвеня адна з найбуйнейшых у Еўропе аўтсорсінгавых кампаній падала заяўку ў камісію па каштоўных паперах ЗША (SEC) з планам размяшчэння акцый на суму каля 100 млн даляраў.

EPAM Systems была створаная ў Беларусі ў 1993 двума інжынерамі, Аркадзем Добкіным і Леанідам Лознерам. Сёння ў ёй працуе каля 7 тысяч чалавек, прычым больш за 3 тысячы з'яўляюцца супрацоўнікамі офіса ў Мінску.

Паводле дадзеных фінансавай справаздачнасці, у 2010 годзе чысты прыбытак кампаніі (пасля падаткаабкладання) склаў $33,2 мільёна.

**ЯВ**

# Замежны доўг вырас пад $32 мільярды

**Ён вырас на $3,2 мільярда за тры месяцы.**

Сукупны замежны доўг Беларусі на 1 красавіка склаў $31,7 мільярда. За першы квартал 2011 года ён вырас на $3,2 мільярда, або на 11,3%. Гэта вынікае з дадзеных, размешчаных на сайце Белстата.

У абсалютных лічбах гэта рэкордныя тэмпы росту за квартал. Ніколі яшчэ замежны доўг не прырастаў больш чым на 3 мільярды даляраў за тры месяцы.

У чацвёртым квартале 2010 года замежны доўг вырас на 11,4%, але гэта складала каля 2,8 мільярда даляраў. Патрэба краіны ў замежных пазычаннях расла як снегавы камяк па меры росту дэфіцыту бягучага рахунку. Каб спыніць гэты камяк, улады пайшлі на дэвальвацыю рубля і спынілі валютныя інтэрвенцыі на рынку.

Як бачым, апошнія паўгода ў сярэднім рост доўгу складаў каля $1 мільярда за месяц. Такім чынам, да канца года валавы замежны доўг краіны можа дарасці да $40 мільярдаў.

Цяпер што да памеру валавога ўнутранага прадукту (ВУП) Беларусі. У 2010 годзе ён склаў 163 трыльёны рублёў. Нават калі ўлічыць, што яго рост да канца года захаваецца на ўзроўні 12%, то ў канцы года знешні доўг можа перавысіць гадавы ВУП Беларусі. Гэта азначае, што краіна раней, чым меркавалася, дасягне крытычнай столі замежнай запазычанасці.

**СГ, ЯВ**

| 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 красавік |
|---|---|---|---|---|---|
| 6,8 | 12,7 | 15,1 | 22 | 28,5 | 31,7 |

**Замежны доўг Беларусі, млрд даляраў**

# Стаўка рэфінансавання — 18%

**Гэта не апошні рост у бліжэйшы час.**

Стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка з 22 чэрвеня павысілася на 2% і дасягнула 18% гадавых. Апошняе павелічэнне адбылося тры тыдні таму — 1 чэрвеня, тады стаўка таксама вырасла на 2%. Сёлета стаўка ўзрастае ўжо ў пяты раз, тым не менш, яна ўсё роўна істотна адстае ад узроўню інфляцыі.

Рост стаўкі рэфінансавання павялічыць прыбытак ад рублёвых укладаў. Гэта, на думку прадстаўнікоў Нацбанка, заахвоціць людзей вяртаць у банкі дэпазіты, забраныя апошнім часам. Разам з тым, павялічацца і стаўкі крэдытаў.

**ЯВ**

# Каб не шарахнула

**Падаражанне гарэлкі адкладзенае на два месяцы.**

Міністэрства эканомікі Беларусі вырашыла адкласці запланаванае павышэнне цэнаў на гарэлку і іншы моцны алкаголь. Цана алкаголю будзе павялічаная толькі праз два месяцы.

Планавалася, што ад 15 чэрвеня алкаголь падаражэе на 8,4%: адпускная цана на гарэлку павінна была скласці 6 830 рублёў за бутэльку 0,5 літра, а рознічная — 9 400 рублёў.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, увядзенне новых цэнаў вырашана было адкласці «з улікам існуючай сітуацыі на спажывецкім рынку, у мэтах недапушчэння некантраляванага росту цэнаў на алкагольную прадукцыю».

**ЯВ**

## Сцісла

• **Даляр стаіць на месцы.** У параўнанні з мінулым тыднем разрыў паміж афіцыйным і рынкавым курсам нязначна зменшыўся. Курс пакупкі і продажу даляра на сайце Пракапові.ч складае каля 6200 рублёў. У абменніках Вільні даляр прадаюць за 6150—6200 рублёў замест 6700 рублёў на мінулым тыдні.

• **Кантроль за макулатурай.** Беларусь увяла забарону на вываз макулатуры з тэрыторыі краіны. Міністэрства замежных спраў Беларусі параіла зрабіць тое ж самае Расіі і Казахстану.

**ЯВ**

# Мікіта Ліхавід апынуўся ў пекле на зямлі

21-гадовага палітвязня чацвёрты раз за сорак дзён кінулі ў карцар.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

40 дзён як Мікіту этапавалі ў Наваполацкую калонію з Мінска. З іх 30 ён правёў у карцары.

Спачатку яго каралі, бо ён адмаўляўся называць сябе асуджаным. А на 4-ы раз адміністрацыя абвінаваціла 21-гадовага юнака ў неданясенні на сукамернікаў. Пры праверцы камеры, дзяжурным па якой быў Мікіта, знайшлі забароненыя прадметы. А менавіта — цыгарэты, забароненыя ў «штрафной» камеры.

Апошні раз Мікіту адправілі ў карцар на пяць дзён. Да гэтага ён правёў ужо там у суме трыццаць дзён — месяц. Як паведаміла маці палітвязня Алена, сын павінен быў выйсці дзесяці 18 чэрвеня. Таму яна на наступны дзень спрабавала звязацца з калоніяй. Але ніхто не адказваў на тэлефанаванні. Толькі 20 чэрвеня яна змагла звязацца з прыёмнай начальніка. Але самога начальніка не было на месцы. Жанчыну накіравалі да якогасьці Дзмітрыя Красько. Ён адмовіўся гаварыць штосьці пра Мікіту. Параіў звяртацца ў пісьмовай форме альбо на асабістым прыёме згодна з графікам.

**Напісаць палітвязню можна на адрас:**

Ліхавіду Мікіту

вул.Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10, 211440, Віцебская вобл., г.Наваполацк

«Яны не ідуць ужо на кантакт і адмаўляюцца даваць інфармацыю. Калі раней яшчэ казалі нешта, то сёння я ў поўнай невядомасці». Жанчына адзначыла, што ні лістоў, ні тэлефанаванняў ад сына не было. І кантакт з адміністрацыяй калоніі быў адзінай магчымасцю атрымліваць звесткі пра сына.

Аляксандр Мілінкевіч, лідар Руху «За Свабоду», да якога належыць і Ліхавід, звярнуўся да начальніка калоніі Аляксандра Сівохі. Палітык заклікаў ставіцца да вязняў гуманна і з павагай, выконваць нормы беларускага заканадаўства і міжнароднага права. У адказе Мілінкевічу гаворыцца, што Ліхавід адмаўляецца ад выканання абавязкаў, ускла-дзеных на яго крымінальна-выканаўчым заканадаўствам.

Мікіта Ліхавід асуджаны на 3,5 года калоніі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010. Раней ён ужо правёў 10, 15 і 5 дзён у карцары.

**Сяргей Макарэвіч**

**Карцар**

гэта спецыяльна ізаляваная камера ў турме для часовага ўтрымання парушальнікаў рэжыму. Цягам знаходжання ў ім не выводзяць на вуліцу. Практыкуюцца паніжаныя нормы харчавання. У карцары выдаецца спецыяльная роба. Цёплыя рэчы забароненыя. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч адзначае, што летам яшчэ трываць можна, а зімой ад холаду не заўжды магчыма заснуць. Удзень нары прыбіраюць, а класціся на падлогу нельга. Можна стаяць альбо сядзець на табурэце. Па словах Стэфановіча, праваабаронцы такія нормы лічаць катаваннем.

## Статкевіч: «Атрымліваю асалоду ад сонца і травы»

Экс-кандыдату ў прэзідэнты далі патэлефанаваць бацьку.

Як паведаміла жонка асуджанага палітыка Марына Адамовіч, яна атрымала ліст, дасланы 13 чэрвеня, на наступны дзень пасля этапавання мужа ў калонію. Мікола напісаў, што этап не быў цяжкім — давезлі за ноч. Цяпер ён атрымлівае асалоду ад сонца, паветра, травы. Ён напісаў, што калонія дагледжаная, новая мэбля. Марына паведаміла, што ў тэлефоннай размове з бацькам ён расказаў тое ж, што напісаў ёй. Мікола папярэдзіў, каб не ўступалі ў кантакт з людзьмі, якія будуць прыходзіць ад яго імя. Па яго словах, тэлефанаваць з калоніі можна раз на тыдзень, але толькі на стацыянарныя нумары.

Мікола Статкевіч асуджаны на 6 гадоў турмы — найбольшы тэрмін сярод усіх палітыкаў. Знаходзіцца ў калоніі ў Шклове.

**Кастусь Матушыч**

Статкевічу Мікалаю

Папраўчая калонія №17213004, г. Шклоў

## Кіркевіч: «Мы вернемся, дасць Бог»

Палітвязень даслаў новы верш. Таксама ў інтэрнэце з'явілася яго фота з калоніі.

Усё мінае —
Краты, шмоны, сутарэнні.
Нам застанецца
Гонар і сумленне,
Пах восеньскага лісця
і туман.
Усё астатняе —
Лухта, падман.
І ўсё адно мы вернемся,
Дасць Бог,
Пакласці кветкі
Маме на парог.

Алесь Кіркевіч асуджаны за Плошчу да 4 гадоў турмы. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.

Кіркевічу Аляксандру Раманавічу

вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10

211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк



## Дразда перавялі ў Бабруйск

Як паведамілі ў праваабарончым цэнтры «Вясна», палітвязня Зміцера Дразда перавялі ў калонію ў Бабруйск. Два тыдні ён будзе знаходзіцца на каранціне.

Гісторык-архівіст Зміцер Дрозд, аўтар кнігі «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900 гг.», атрымаў тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 г. Яму можна пісаць лісты.

У гэтай калоніі знаходзіцца Андрэй Пратасеня, чакаецца накіраванне туды Арцёма Грыбкова.

Дразду Дзмітрыю

Пратасеню Андрэю

Грыбкову Арцёму

вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія №2.

213800, Магілёўская вобласць, г. Бабруйск

## Малчанаў святкуе 23-годдзе ў калоніі

Палітвязень Аляксандр Малчанаў, які знаходзіцца ў калоніі ў Магілёве, рэгулярна тэлефануе сваёй маці. З-за такой магчымасці сувязі ён адмовіўся пісаць ёй лісты. Як паведамілі праваабаронцы, да самага ж маладога чалавека лісты даходзяць, хаця, магчыма, і не ўсе. 22 чэрвеня Аляксандру спаўняецца 23 гады.

З калоніі ў Шклове жонцы тэлефанаваў і Аляксандр Класкоўскі. Ён сказаў, што званіць можна штотыднёва. Пра сябе ён нічога не паведаміў. Сказаў толькі, што побач з ягоным знаходзіцца ложак Міколы Статкевіча.

**КМ**

## Павіншуй палітвязня з Днём нараджэння

6 студзеня — Арцём Грыбкоў (1989)
7 студзеня — Мікола Аўтуховіч (1963)
16 студзеня — Уладзімір Лобан (1978)
4 лютага — Аляксандр Квяткевіч (1987)
12 лютага — Сяргей Казакоў (1992)
8 сакавіка — Андрэй Саннікаў (1954)
22 сакавіка — Аляксандр Атрошчанкаў (1981)
26 сакавіка — Зміцер Дрозд (1973)
16 красавіка — Андрэй Пачобут (1973)
19 красавіка — Дзмітры Даронін (1982)
24 красавіка — Павел Вінаградаў (1988)
27 мая — Мікіта Ліхавід (1990)
10 чэрвеня — Дзмітрый Ус (1971)
22 чэрвеня — Аляксандр Малчанаў (1988)
20 ліпеня — Зміцер Дашкевіч (1980)
6 жніўня — Ілля Васілевіч (1991)
12 жніўня — Мікола Статкевіч (1956)
25 жніўня — Зміцер Буланаў (1984)
30 жніўня — Васіль Парфянкоў (1981)
4 верасня — Уладзімір Яроменак (1990)
16 верасня — Зміцер Новік (1981)
26 верасня — Аляксандр Класкоўскі (1978)
28 верасня — Зміцер Бандарэнка (1963)
3 кастрычніка — Яўген Сакрэт (1966)
1 снежня — Эдуард Лобаў (1988)
9 снежня — Фёдар Мірзаянаў (1990)
12 снежня — Андрэй Пратасеня (1981)
30 снежня — Павел Севярынец (1976)

**ЗП**




## «Мы жывём па паняццях»

Падчас народных гулянняў у Баранавічах 15 чэрвеня былі затрыманы трое чалавек. Сярод іх — Уладзімір Гундар **(на фота злева)**. Міліцыянты павалаклі яго, нягледзячы на тое, што Гундар — інвалід II групы, у яго няма нагі.

— Я прыйшоў на плошчу ў 18.55, — расказаў ён карэспандэнту «НН». — Там стаялі супрацоўнік ідэалагічнага аддзела Пузікаў, 6—8 супрацоўнікаў КДБ у цывільным, патруль з двух міліцыянтаў. У 19.10 патруль затрымаў дваіх маладых людзей, у якіх не аказалася дакументаў. Пасля патруль падышоў да супрацоўнікаў КДБ і адразу скіраваўся да мяне. Таксама папрасілі дакументы. Я ў сваіх руках паказаў пашпарт. Малодшы сяржант Красоўскі хацеў забраць дакумент. Я не дазволіў. Тады ён сказаў, што затрымлівае мяне на тры гадзіны для высвятлення асобы. На абурэнні ён прапанаваў праехаць на дактыласкапію. Але мае адбіткі маюцца ў базе, пра што я і паведаміў. Тады падышлі яшчэ два міліцыянты і павалаклі мяне ў машыну. Загрузілі як дровы.

У аддзяленні загадалі дастаць усё з кішэняў, каб перапісаць. Я адмовіўся гэта рабіць без пратакола. Людзі ў цывільным мне працягнулі загадзя падрыхтаваную заяву. Тэкст быў прыкладна такі: «Я абавязуюся не ўдзельнічаць у несанкцыянаваных акцыях. З адказнасцю азнаёмлены». Падпісваць адмовіўся і папрасіў скласці пратакол. На гэта чалавек у цывільным сказаў, што я сам да іх прыйшоў і ніхто мяне не затрымліваў. Калі я запытаўся, мы жывём у краіне па законе ці па паняццях, пачуў — па паняццях.

**КМ**

# Праз замочную шчыліну

Праціснуліся беларускія юнакі ў паўфінал чэмпіяната Еўропы па футболе.



Прайграўшы, шчаслівыя.

### Спроба нумар тры

Нацыянальная зборная за 20 гадоў суверэнітэту так ні разу і не прабілася на топ-першынство. Бліжэй за ўсё былі ў 2001 з вясёлай камандай Малафеева. Але там былі дзіўныя пройгрышы ўкраінцам і валійцам, што пакінула нашых толькі на трэцім месцы ў групе. Па сёння ходзяць размовы, ці не спрычыніліся да гэтага «краты» (людзі, якія займаюцца гульнямі па дамоўленасці).

На гэтым фоне «маладзёжка» выглядае куды прывабней. Аж тры выхады «на Еўропу». Прычым, зрабіць гэта юнакам нават складаней, чым дарослым. У чэмпіянаце, дзе гуляюць каманды да 23 гадоў, удзельнічае толькі 8 зборных. Пры 16 на галоўным першынстве кантынента.

Першы раз маладыя беларусы паспрабавалі на смак топ-першынства ў 2004 годзе. Юры Пунтус прывёз у Германію наш зорны склад. І сёння многія футбалісты той зборнай на вядучых ролях — браты Глебы, Цімох Калачоў, Юры Жаўноў, Сяргей Карніленка.

Пачыналася тады ўсё вельмі прыгожа. Перамогай над Італіяй. Скончылася трагедыяй у гульні з Сербіяй. Той матч па сёння застаецца ў памяці беларускіх заўзятараў узорам несправядлівасці. А прозвішча румынскага суддзі Тудара стала асацыявацца з кілерам.

Два гады таму паказаць уцямны футбол на палях Швецыі беларусам не ўдалося. Той няўдачы не вытрымала сэрца настаўніка нашых хлопцаў Юрыя Курненіна. Праз пару тыдняў пасля першынства ён памёр.

### За Пятровіча

На трэнерскім мосціку яго замяніў вучань і сябар Георгій Кандрацьеў. Некалі яны разам станавіліся чэмпіёнамі СССР у складзе мінскага «Дынама».

Кандрацьева шмат хто не любіць у федэрацыі. Найперш таму, што на кожнае слова гатовы адказ. Нават былі размовы аб яго адстаўцы, але хлопцы аднназначна заявілі, што гуляюць «за Пятровіча».

Для выхаду ў Данію беларусы выбілі не абы-каго, а італьянцаў. Тут варта толькі заўважыць, што з дзесяці апошніх падобных спаборніцтваў апеніны выйгравалі ў палове. Таму і перамога была настолькі дарагая.

### Спадзяваліся на Ісландыю

У Даніі мы трапілі ў групу А разам з гаспадарамі турніра, Ісландыяй і Швейцарыяй. Група роўная. Дарэчы, яшчэ да першай гульні найпапулярнейшая брытанская букмекерская кантора William Hill адводзіла беларусам ролю безумоўных аўтсайдараў. Каэфіцыент на перамогу нашых у чэмпіянаце першапачаткова складаў 21 да 1. Да прыкладу, у іспанцаў — толькі 3 да 1, а ў ісландцаў — 9 да 1.

Ды што значаць гэтыя лічбы. У першай жа гульні каманда Кандрацьева прыемна здзівіла перамогай над Ісландыяй. «Вікінгі» былі бліжэй да перамогі, але бліскучая гульня брамніка Гутара дапамагла захаваць свае вароты «на замку». У чужыя ж удалося забіць двойчы.

Потым быў неабавязковы пройгрыш ад датчан — 1:2. У вырашальнай гульні трэ было выйграваць у Швейцарыі. Але дзе там, з такім шкалярскімі памылкамі, што ў самым пачатку дапусцілі дынамавец Вераціла і батэвец Філіпенка.

Парадаксальнасць сітуацыі заключалася ў тым, што нашым заставалася хварэць за Ісландыю. Перакананы, што многія суайчыннікі ў той момант забыліся пра няўклюдныя спробы сваіх стварыць нешта канструктыўнае ля брамы «альпійцаў», перажываючы за далёкіх астраўлян.

У барацьбе двух паўночных народаў Ісландыя выйграла ў Даніі — 3:1. Але гэты вынік не прынёс радасці ніводнай з каманд. Георгій Кандрацьеў, калі даведаўся вынік, радасна падняў рукі. У гэты момант нашы прапускалі трэці гол — гэта ўжо нікога не цікавіла.

Так сталася, што беларусы, ісландцы і датчане набралі аднолькава пунктаў, але ў нашых атрымалася лепшая розніца забітых і прапушчаных галоў. Вось так праз замочную шчыліну мы трапілі ў паўфінал.

### У чым розніца між намі і Італіяй?

А магло ж пашчасціць яшчэ болей, каб Англія змагла ўтрымаць пераможны лік у сустрэчы з Чэхіяй. У такім выпадку мы б упершыню трапілі на Алімпіяду.

Цяпер у сераду пройдуць паўфіналы: Іспанія — Беларусь (пачатак у 19:00), Швейцарыя — Чэхія. Ім трэба вызначыць не толькі чэмпіёна, але і няўдачніка, што не трапіць на Алімпіяду ў Лондан.

Поспех маладых беларускіх футбалістаў тлумачыцца досыць проста. Беларусы не маюць належнай канкурэнцыі ў сваіх клубах, праз гэта ў іх амаль неабмежаваная гульнявая практыка.

Згадваецца, як галоўны трэнер італьянскага «Кальяры» супакойваў нашага Мішу Сівакова, што той не праходзіць у асноўны склад. «У гэтым туры ў Італіі гулялі толькі два твае аднагодкі», — казаў ён. Потым гэтая моладзь усё ж прабіваецца ў асноўны склад, што дазваляе ёй хутка прагрэсаваць. Беларусы ж спыняюцца на сваім развіцці, калі не пераходзяць у больш моцны чэмпіянат.

Нашы футбалісты тым часам пакрыўдзіліся на крытыку ў прэсе і наклалі вета на адносіны з журналістамі. Як бы тое ні было, але хочацца спадзявацца, што ўвесь запас шанцавання беларусы на палях Даніі яшчэ не вычарпалі.

**Зміцер Панкавец**

## Белфасцкія «юніяністы», бакінскія «лётчыкі»

Вядомыя супернікі беларускіх футбольных каманд у еўракубках.

БАТЭ (Барысаў) — «Лінфілд» (Паўночная Ірландыя). Ліга чэмпіёнаў. Матчы адбудуцца 12–13 і 19–20 ліпеня. Першы матч барысаўскі клуб правядзе ў гасцях.

Так склалася гістарычна, што ў еўрапейскіх футбольных турнірах прадстаўнікі Вялікабрытаніі гуляюць пасобку. Паўночнаірландскі футбол не такі моцны, як англійскі ці шатландскі. Клуб з Белфаста «Лінфілд» быў чэмпіёнам сваёй краіны аж 50 разоў (больш, чым хто). Аднак на еўраарэне адзначыцца нечым запамінальным не ўдавалася. Байцы ІРА не ходзяць у шэрагах фанатаў «Лінфілда». За клуб перажываюць прыхільнікі Злучанага Каралеўства. Праз гэта каманда мае трывалыя сяброўскія сувязі з лонданскім «Чэлсі».

«Мінск» (Беларусь) — АЗАЛ (Азербайджан). Ліга Еўропы. Матчы пройдуць 30 чэрвеня і 7 ліпеня. Першы матч адбудзецца ў Мінску.

У азербайджанскі футбол апошнія дзесяцігоддзе пайшлі вялікія нафтавыя грошы. Гэта значыць, што каманды цяпер могуць запрашаць дарагіх легіянераў і трэнераў. Чаго толькі варты цяперашні настаўнік зборнай Берці Фогтс. Некалі гэты немец прыводзіў сваю каманду да перамогі на Еўра-1996. Азербайджанскія клубы сталі вельмі няўступлівымі супернікамі. Летась ад іх добра так пацярпелі палякі. Лёгка «Мінску», адназначна, не будзе. Бакінскі АЗАЛ яшчэ называюць лётчыкамі, бо каманду спансаруюць азербайджанскія авіялініі. Трэнеруе каманду славуты яшчэ з савецкіх часоў футбаліст Назім Сулейманаў. Летась за АЗАЛ гуляў беларус Блізнюк, але пакінуў каманду з прычыны злоўжывання алкагольнымі напоямі.

«Шахцёр» (Салігорск) — «Вентспілс» (Латвія). Ліга Еўропы. Матчы пройдуць 15 і 22 ліпеня. Першы ў Беларусі.

«Шахцёр» стартуе на раўнд пазней за «Мінск». «Вентспілс» добры знаёмы беларускім футбольным аматарам. Два гады таму ён перакрэсліў надзеі на Лігу чэмпіёнаў для барысаўскага БАТЭ. Відаць, было ў той гульні нешта шапказакідальніцкае з боку беларусаў, за што і паплаціліся. «Вентспілс» утварыўся ў 1997 годзе шляхам аб'яднання мясцовых каманд «Вента» і «Нафта». За гэты час каманда паспела тройчы стаць чэмпіёнам Латвіі. Трэніруе клуб добра вядомы беларусам Сяргей Падпалы. У 2003 годзе ён прыводзіў да чэмпіёнства «Гомель», потым трэніраваў мінскае «Тарпеда-МАЗ». Дарэчы, зімой у Турцыі гэтыя каманды ўжо гулялі, тады была зафіксаваная нічыя — 0:0.

**ЗП**

## Найлепшага бамбардзіра чэмпіянату Расіі спецназавец пасля матча пачаставаў электрашокерам

Спецназавец з Ніжняга Ноўгарада ўжыў электрашокер супраць футбаліста піцерскага «Зеніта» Данкі Лазавіча пасля матча 14 тура чэмпіянату Расіі з мясцовай «Волгай», які завяршыўся з лікам 2:0 на карысць гасцей.

Толькі па шчаслівай выпадковасці футбаліст не пацярпеў. «Я проста пайшоў падарыць сваю футболку заўзятарам пасля гульні, калі ззаду з'явіўся паліцыянт і ўдарыў мяне ў спіну электрашокам. Не ведаю, чаму так адбылося — магчыма, ён падумаў, што я адзін з фанатаў. Часам здараецца так, што людзі робяць страшныя рэчы. Было дзіўнае пачуццё. Дзіўна, што такое ў прынцыпе можа адбывацца дзесьці на спартыўных спаборніцтвах, але тут, у Расіі, мабыць, магчыма абсалютна ўсё», — з горыччу сказаў Лазавіч афіцыйнаму сайту «Зеніта».

Паліцыя Ніжняга Ноўгарада спачатку адмаўляла факт ужыцця электрашокера супраць футбаліста. Але пасля дактары пацвердзілі: у спартоўца апёк цела першай ступені ў раёне лапаткі.

Данка Лазавіч — серб, які гуляе за піцерскі «Зеніт», у гэтым сезоне ён мае дзевяць забітых галоў.

У Беларусі таксама інцыдэнты з фанатамі робяцца ўсё часцейшымі. Апошні скандал здарыўся ў Бабруйску: там спецназ прэвентыўна ўжыў слезацечны газ, у выніку чаго пацярпела дзіця, а таксама футбаліст мінскага «Дынама» Міхаіл Афанасьеў.

**Сяргей Гезгала**



# Пракаповіч больш не старшыня Нацбанка



Юрый Алымаў.

Але і не ў адстаўцы.

20 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка прызначыў выканаўцам абавязкаў старшыні праўлення Нацбанка Юрыя Алымава.

Паведамляецца, што кіраўнік Нацбанка Пятро Пракаповіч, які перанёс сур'ёзную аперацыю на сэрцы, павінен прайсці цягам бліжэйшых месяцаў курс медыцынскай рэабілітацыі.

Яшчэ ў пятніцу на прэс-канферэнцыі Аляксандр Лукашэнка казаў, што замяняць Мясніковіча і Пракаповіча амаль няма на каго.

Юрый Алымаў нарадзіўся ў 1957 годзе на тэрыторыі цяперашняга Кыргызстана. Скончыў Ленінградскі фінансава-эканамічны інстытут імя Вазнясенскага, пасля чаго ў 1985 годзе адправіўся працаваць у беларускі Светлагорск.

Там ён зрабіў кар'еру, падняўшыся ад старэйшага эканаміста Светлагорскага гарадскога фінансавага аддзела да намесніка старшыні Светлагорскага гарвыканкама на пачатку незалежнасці. У 1993–1997 Алымаў быў намеснікам гомельскага абласнога кіраўніка «Беларусбанка», далей пераехаў у Мінск, стаўшы намеснікам старшыні банка.

Як і Пракаповіч, Алымаў прыйшоў у Нацбанк 1998 годзе. Праз тры гады стаў першым намеснікам кіраўніка галоўнага банка краіны. У свой час Алымаў атрымаў другую вышэйшую адукацыю, скончыўшы Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў.

**Яўген Васількоў**




Двухузроўневыя апартаменты.

# Адпачынак па-радзівілаўску

«Трайпл» Юрыя Чыжа адкрые гатэль у Мірскім замку.




У найбліжэйшы час на тэрыторыі замка ў Міры адкрыюцца гатэль і рэстаран. Яны адразу ж будуць перададзеныя ў арэнду ТАА «Трайпл», якое належыць бізнэсоўцу Юрыю Чыжу — ён укладваў грошы ў будаўніцтва.

У элітным гатэлі прадугледжаныя 35 нумароў для гасцей, у тым ліку і «прэзідэнцкі-люкс» і двухузроўневыя апартаменты. Асноўны ўпор дызайнеры зрабілі на стыль пачатку XX стагоддзя.

**Віталь Несцераў**

## Маладзечна: калісьці знакаміты завод «Спадарожнік» знікне

У горадзе адбываецца зліццё двух прадпрыемстваў.

У Рэдакцыю звярнуўся чытач, занепакоены лёсам радыёзавода «Спадарожнік». Прадпрыемства адкрыло свой час: з 8000 рабочых у пачатку 1990-х сёння захаваліся 300. Чытач хвалюецца за лёс і гэтых людзей, якія могуць застацца без працы пры далучэнні «Спадарожніка» да ААТ «Электрамодуль».

Прэс-сакратар Міністэрства прамысловасці Сяргей Шалай паведаміў, што «члены працоўнага калектыву не будуць ушчэмлены. Увесь калектыў будзе далучаны да «Электрамодуля». Ён падкрэсліў, што скарачэнняў не плануецца. І цяпер індывідуальна з кожным спецыялістам вырашаецца пытанне яго далейшай працы.

Дырэктар «Спадарожніка» Валерый Туцін сказаў, што на яго прадпрыемстве сёння працуе 286 чалавек. Усім з іх прапанавана праца ў «Электрамодулі». Ці ўсе пярэйдуць, Валерый Туцін не ведае. Ён дадаў, што ўжо чалавек 15—20 з прадпрыемства звольніліся па ўласным жаданні.

Мэта аб'яднання прадпрыемстваў — «мінімізацыя выдаткаў па ўтрыманні «Спадарожніка», — заявіў Сяргей Шалай. Колькасць замоў радыёзавода не дазваляе ўтрымліваць яго вялікія плошчы. Па словах Шалая, і тавар там выпускаецца спецыфічны, не масавага выкарыстання.

У Мінпрамысловасці сказалі, што завяршэнне аб'ядання прадпрыемстваў плануюць завяршыць да канца лета.

«Электрамодуль» займаецца выпускам паўправадніковых прыбораў. «Спадарожнік» выпускае электратэхнічную прадукцыю, абсталяванне радыёсувязі.

**Сяргей Макарэвіч**

## Беларускія рублі — самыя танныя грошы ў рэгіёне

Сітуацыя, калі падчас акцыі «Стоп-бензін» людзі рвалі беларускія рублі і кідалі іх як смецце на асфальт, прымусіла задумацца пра вартасць нацыянальнай валюты.

Што гэта за грошы, якія выкідаюць, не задумваючыся?..

«Наша Ніва» параўноўвае вартасць беларускіх рублёў і іншых валют, якія выкарыстоўваюцца ў нашым рэгіёне.

Выраз «самыя танныя грошы», вынесены ў загаловак, не зусім карэктны. Вядома ж, грошы — гэта эквівалент чагосьці. І калі на кожнай беларускай банкноце скрэсліць адзін нуль, сітуацыя кардынальна не зменіцца.

Тым не менш, для параўнання ўзятыя найбольшыя купюры кожнай нацыянальнай валюты з краін-суседак Беларусі — Польшчы, Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, — а таксама еўра і даляры. Як бачна з табліцы, большасць дзяржаў абмяжоўваюцца пяцісоценнымі купюрамі.

Найбольшая вартасць у латвійскіх грошай. Там сярэдні заробак нават крыху меншы за найбольшую купюру!

Далей ідуць еўра і — з вялікім адставаннем — расійскія рублі.

Цікавая сітуацыя з далярам. Апроч звыклай банкноты $100, таксама існуюць дзейсныя банкноты наміналам у $500, $1000, $5000 і нават $10 000. Іх свабодны зварот быў спынены ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, але пры жаданні імі можна расплаціцца дагэтуль.

Такое моцнае адставанне беларускага рубля (у 50 разоў ад Латвіі і нават у тры разы ад Украіны) — нагода задумацца аб увядзенні ў зварот новай банкноты.

Напрыклад, вартасцю 500 тысяч рублёў. Гэта б спрасціла некаторыя разлікі, якія зараз застаюцца нязручнымі. Што казаць, калі сярэдні заробак у краіне выдаецца як мінімум 15 паперкамі, а кошт квадратнага метра жылля ў Мінску — мінімум 40—50 паперак.

Па каментар «Наша Ніва» звярнулася да кіраўніка ўпраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоля Драздова. «У бліжэйшы час ствараць новыя банкноты Нацбанк не збіраецца. Калі такая інфармацыя з'явіцца, мы паведамім пра яе загадзя», — паведаміў кіраўнік упраўлення Анатоль Драздоў.

**Ягор Марціновіч**

**Вартасць валют**

| Краіна | валюта | найбольш. банкнота | вартасць у беларускіх рублях | вартасць у далярах |
|---|---|---|---|---|
| Латвія | лат | 500 | 5 060 000 | 1014 |
| Еўрасаюз | еўра | 500 | 3 580 000 | 718 |
| Літва | літ | 500 | 1 040 000 | 209 |
| Расія | рас. рубль | 5 000 | 895 000 | 179 |
| ЗША | даляр | 100 | 500 000 | x |
| Польшча | злоты | 200 | 365 000 | 73 |
| Украіна | грыўня | 500 | 310 000 | 62 |
| Беларусь | бел. рубель | 100 000 | x | 20 |

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміце Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

# Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Беларуская асацыяцыя журналістаў склала прыкладны ўзор звароту ў Мініфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма закрыць «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу 220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11.*

*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Яз'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.

# Людзі ходзяць, людзі ездзяць

Працяг са старонкі 1




Першыя акцыі СМІ, у тым ліку і «Наша Ніва», нават не заўважылі. Заклікі на іх распаўсюджваліся толькі ў сацыяльных сетках, а выходзіла на плошчы пара дзясяткаў людзей.

Аднак ідэя спадабалася сваёй простасцю. І 15 чэрвеня ў цэнтр Мінска высыпала столькі людзей, што напалоханыя ўлады закрылі для выхаду станцыі метро «Купалаўская» і «Кастрычніцкая» і заблакавалі турнікетамі плошчы Кастрычніцкую і Свабоды. Усё марна: людзі мірна весяліліся на тратуарах.

У сацыяльных сетках загадзя распаўсюджвалася схема, дзе гуртавацца для гуляння ў выпадку блакавання Плошчы. Але схема пратэсту настолькі «самаарганізыйная», што і так усё ясна. Калі не тут, дык там.

Пакуль адны людзі гуляюць на вуліцах, другія прыязджаюць у цэнтр у аўтамабілях і проста павольна ездзяць па вуліцах вакол цэнтральнай плошчы, сігналячы.

Кадры з Мінска, калі людзі проста стаяць на тратуарах і апладзіруюць, абышлі ўсе тэлеканалы.

«Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку».

Так называецца суполка «Вконтакте», з якой выйшлі першыя заклікі штосерады збірацца між 19.00 і 19.30.

«Першыя сустрэчы можа быць мала людзей, але з кожным разам нас будзе станавіцца ўсё больш», — верылі арганізатары суполкі.

На дадзены момант яна налічвае больш за 9 тысяч удзельнікаў. У іх на аватарцы сціснуты кулак і заклік «Дапамажы блізкаму перамагчы страх».

Але яна не адна. У інтэрнэце такіх суполак шмат.

Няхітрая тактыка працуе. У мінулую сераду людзі выйшлі на плошчы тых гарадоў, дзе гадамі не было ніякіх акцый пратэсту. «У Светлагорску было проста супер», «Думаў, што ў Слуцку будзем адны з жонкай, а так прыемна было!», «У Жодзіне ўжо хоць нешта». Гэта тыповыя запісы «Вконтакте» ўдзельнікаў гэтых акцый. Людзям надакучыла «такое жыццё».

Для Брэста паўтысячы чалавек на плошчы Леніна — гэта вялікая лічба. У рэгіёнах да ўдзельнікаў сацыяльных сетак далучыліся і актывісты апазіцыі.

Сацыяльная сетка «Вконтакте» з'яўляецца найпапулярнейшай у Беларусі. Па самых сціплых падліках, у ёй зарэгістравана 2 мільёны 700 тысяч беларусаў. Вось чаму менавіта іхняя платформа, а не Фэйсбук была абраная для збірання людзей на плошчы. Дарэчы, акцыі падтрымкі Народных гулянняў у сераду распачаліся і ў Фэйсбуку і Твітары.

Прадстаўнікі ўлады возяць юнакоў-завадатараў на прафілактычныя гутаркі ў міліцыю і пракуратуру, праслухоўваюць тэлефоны. Многіх затрымлівалі 15 чэрвеня для высвятлення асобы, у Гродне — горадзе, які выклікае ва ўладаў традыцыйны страх — ужывалі сілу. Дарэчы, усё гэта груба парушае канстытуцыйныя правы на свабоду слова і сходаў. Аднак хвалю збіць не ўдаецца.

Пра гэта з раздражненнем згадваў на прэс-канферэнцыі 17 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка. «Мінгарвыканкам вызначыў. Там — калі ласка: на аўтамабілях, на павозках, на конях, на сабаках, што заўгодна ў межах прыстойнага праводзьце. Але калі ты блакуеш праспект Незалежнасці, палітычны праспект, і перашкаджаеш іншым людзям, на гэта трэба рэагаваць жорстка», — сказаў ён.

Ён паабяцаў міністру ўнутраных справаў Куляшову, што ў выпадку паўтарэння акцыі «Стоп-бензін», калі ў пратэсце супраць росту цэнаў людзі заблакавалі цэнтр Мінска, ён можа пазбавіцца пагонаў. Гэта было б інтрыгоўна: за крызіс у адстаўку не сышоў ніхто, а вось за пратэсты караюць.

Інтрыга наступных мерапрыемстваў заключаецца ў тым, ці будуць Народныя гулянні нарастаць — ці хопіць у завадатараў крэатыву.

**Зміцер Панкавец**

## Ліст на сайце МУС: Многа «шакалаў» развялося ў Беларусі, рвуцца да ўлады ўроды

Афіцыйны сайт Міністэрства ўнутраных справаў стаў друкаваць лісты, што прыходзяць да іх. Вельмі цікавае пісьмо было змешчана на старонцы МУС 17 чэрвеня. Цяжка сказаць, ці гэта зварот ад сапраўднага жыхара Латвіі Уладзіміра Тарасенкі, ці фэйк (фальшыўка).

Аўтар ліста перасцерагае сённяшніх міліцыянтаў, што ў выпадку змены ўлады нікому патрэбныя яны не будуць. Ён прыводзіць прыклад Латвіі, дзе многія міліцэйскія начальнікі падтрымалі змены ў краіне са спадзевам, што застануцца ва ўладзе.

«Пакуль яны былі патрэбныя, іх выкарыстоўвалі на пэўным этапе, а затым усіх, абсалютна ўсіх, звольнілі пад рознымі падставамі, нягледзячы ні на якія заслугі і ні на якія там вышэйшыя акадэміі і курсы ў Маскве. Таму ніхто з прафесіяналаў не спатрэбіцца (у выпадку «перамен») — паставяць на ключавыя пасады ўсюды сваіх людзей без адукацыі. Так што, паважаныя хлопцы, змагайцеся да канца за нашу любімую Беларусь і адначасова за сябе», — піша аўтар ліста.

Уражвае таксама блатны жаргон гэтага ліста. Тым не менш, ён даецца без прыхарошванняў. Вось некаторыя цытаты.

«Многа «шакалаў» развялося ў Беларусі, рвуцца да ўлады ўроды. Больш жорстка з імі, асабліва больш надавайце ўвагі на тых, хто працуе «пад дурака». Гэта яны ўсе прыкідваюцца, яны дуракі ў свой бок, ясен перац губа не дура, ведаюць, як на шару праскочыць на чужым гарбу. Ну і, канечне, асаблівую ўвагу арганізатарам — гэта ўвогуле сапраўдныя звяры».

Звычайна людзі, тым больш маракі, як прэзентуе сябе Тарасенка, калі пішуць лісты, не ўжываюць столькі двукоссяў. Дый сам стыль ліста падобны хутчэй да стылю аднаго знанага ў Беларусі журналіста.

Ліст можа быць рэакцыяй на рост крытычных настрояў у сілавых структурах.

**ЗП**

## Мінгарвыканкам адмовіў у ШОС-акцыі

15 чэрвеня споўнілася дзесяць гадоў з дня заснавання Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва. Больш вядомай пад скарачэннем ШОС.

З гэтай нагоды сябра партыі БНФ Сяржук Семянюк звярнуўся ў Мінгарвыканкам з просьбай дазволіць сход у парку Дружбы народаў. Мэта — абмеркаваць гадавіну стварэння ШОС.

Меркавалася, што акцыя пройдзе паўгадзіны без шэсця і дэманстрацый. Максімальная колькасць удзельнікаў — 50. Было запланавана, што на акцыі выступяць прыхільнікі ўступлення Беларусі ў Шанхайскую арганізацыю.

Семянюку прышоў адказ за подпісам намесніка старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Калтовіча. У лісце адзначаецца, што заяўка не адпавядала патрабаванням «Закона аб масавых мерапрыемствах». У праваздненні сходу было адмоўлена.

Цяпер Семянюк ужо склаў заяву ў суд з абскарджваннем адмовы, дзе просіць даць дазвол у любы час.

**ЗП**

## На Ліпковіча крымінальная справа

Стала вядома, што генеральная пракуратура завяла крымінальную справу па факце абразы дзяржаўнай сімволікі ў блогу Lipkovich.livejournal.com. Справа перададзеная ў ГУУС Мінгарвыканкама.

Гаворка вядзецца пра графічныя выявы, якія былі змешчаны ў дзённіку 25 верасня 2010 года і 5 мая 2011. Гэта артыкул 370 КК «Абраза дзяржаўных сімвалаў». Паводле гэтага артыкула прадугледжаная санкцыя да аднаго года абмежавання волі.

Блогер Яўген Ліпковіч так выказаўся па справе. «Ваенных злачынстваў я не здзяйсняў. Дзяржаўную сімволіку таксама не абражаў. Мяне больш хвалюе не гэта, а адсутнасць абястлушчанага кефіру ў краіне».

Ліпковіч кажа, што пакуль не бачыў ніякіх пастановаў аб завядзенні крымінальнай справы.

Дарэчы, блогу з назвай Lipkovich.livejournal.com больш не існуе. Цяпер пры наборы гэтага адраса адчыняецца старонка Lipkovichea.livejournal.com.

Нагадаем, што блог Яўгена Ліпковіча ўнесены ў спіс абмежаванага доступу БелГІЭ і доступ да яго забаронены для дзяржструктур. Падставай для блакавання блогу стаў нібыта «распаўсюд інфармацыі дэструктыўнага характару і здзек з дзяржаўнай сімволікі».

**ЗП**

# Апладысменты пратэсту

## У Мінску пратэсты ў рытме We will rock you.

Чарговая спроба сабраць Плошчу праз сацыяльныя інтэрнэт-сеткі «Вконтакте» і «Фэйсбук» аказалася больш паспяховай за папярэднюю. У сераду, 15 чэрвеня, тысячы беларусаў выйшлі на маўклівы пратэст у чатырох дзясятках населеных пунктаў краіны. Адмоўны вынік — 140 затрыманых, станоўчы — спадзяванне на яшчэ больш шматлікую акцыю ў наступныя серады. Патрабаванні ўдзельнікаў празрыстыя і без лозунгаў — палітычныя і эканамічныя перамены.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Запалохванне не спрацавала

Сустрэча 8 чэрвеня сабрала на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску з паўтысячы чалавек, актыўнасць у рэгёнах была значна меншай, але з кожнай новай серадой колькасць пратэстоўцаў працягвае расці.

Адчуўшы патэнцыйную небяспеку, 15 чэрвеня ўлада вырашыла згуляць на апярэджанне. Пракуратура разрадзілася заявамі наконт «устаноўленай законам адказнасці» за несанкцыянаваныя мерапрыемствы, кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка паабяцаў ўласнаручна так «шарахнуць, што не паспеюць за мяжу перабегчы», а сілавыя структуры загарадзілі плошчу металічнымі турнікетамі.

За гадзіну да пачатку акцыі на апусцелай Кастрычніцкай пачалася рэпетыцыя... парада фізкультурнікаў на 3 ліпеня. Пад бадзёры адлік з дынамікаў студэнты Акадэміі фізкультуры выстройваліся ў шэрагі і дыяганалі. Людзі ў цывільным з рацыямі падыходзілі да выпадковых мінакоў і настойліва раілі пакінуць плошчу.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Заадно ўлады перакрылі цэнтральныя станцыі метро, не спынялася на Плошчы і «сотка» — аўтобус №100. Арганізатары акцыі загадзя абвясцілі ў інтэрнэце, што альтэрнатыўнае месца збору — плошча Свабоды, але яна была перакрытая турнікетамі таксама.

### Гармідар у цэнтры горада

У выніку акцыя перамясцілася на ходнікі цэнтральных праспектаў Мінска. Натоўп сканцэнтраваўся на кожным з бакоў скрыжавання праспектаў Незалежнасці і вуліцы Леніна. Яшчэ некалькі сотняў пратэстантаў апынуліся каля цырка, іншыя — у раёне плошчы Свабоды. Агульную колькасць удзельнікаў акцыі назваць складана, бо групкі людзей плаўна перацякалі і змешваліся з выпадковымі мінакамі. У любым выпадку ўсталіцы інтэрнэт сабраў больш чым паўтары тысячы чалавек.

Зрэшты, да ўдзельнікаў акцыі можна далучыць і сотні кіроўцаў, якія, праязджаючы міма, бясконца сігналілі і стваралі суцэльны гармідар у цэнтры горада.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Палітычнае зацішша

Арганізатары адразу папярэджвалі патэнцыйных удзельнікаў — ніякіх сцягоў, ніякіх лозунгаў і транспарантаў. Адзінкавыя спробы завесці натоўп скандаваннем «Жыве Беларусь!» натыкаліся на непаразуменне — было ж дамоўлена — ніякіх лозунгаў! Але Уладзімір Някляеў, які, бадай, адзіны з палітыкаў завітаў на акцыю, адразу сабраў каля сябе натоўп. Людзі віталіся з паэтам і дзякавалі яму за выбарчую кампанію.

А вось стратэгія апладысментаў апраўдала сябе. Калі натоўп на адным баку праспекта пачынаў ляскаць у ладкі, рытм падтрымлівалі людзі, якія знаходзіліся насупраць, чым відавочна раздражнялі амапаўцаў. Але не арыштоўваць жа ўсіх за апладысменты?

### Затрымліваць няма за што

У якасці альтэрнатыўнай сілы ў цэнтр горада былі сагнаныя пару дзясяткаў амапаўцаў і безліч звычайных міліцыянтаў — участковых і супрацоўнаў РУУС. Падобная практыка выкарыстоўвалася пару гадоў таму — замест спецназаўцаў акцыі суправаджалі даволі мірныя супрацоўнікі ДАІ. Варта прызнаць, што міліцыянты не аказаліся сляпымі выканаўцамі загадаў. Калі міліцыя адцясняла натоўп да падземнага пераходу ля ГУМа, начальства падганяла іх: «Не спыняемся! Далей!» Звычайныя міліцыянты запавольвалі хаду: «Куды гнаць? Там жа цісканіна будзе!»

Але, як заўсёды, зноў не абышлося без затрыманняў. Усіх затрыманых адпускалі без складання пратаколаў.

### Рэгіянальная падтрымка

Людзі выйшлі на свае Плошчы па ўсёй краіне, прычым акцыі закранулі ў роўнай ступені захад і ўсход краіны. Брэст, Гродна, Магілёў, Гомель, Бабруйск — у кожным з гэтых гарадоў пратэст выказалі сотні чалавек. Колькасць населеных пунктаў, у якіх акцыі былі не такія шматлюдныя, дасягае трыццаці-сарака. Ахопленыя амаль усе больш-менш буйныя гарады.

Калі у Мазыры сабралася сто чалавек, то ў суседніх Калінкавічах — усяго адзін. «Нічога, і адзін у полі воін!» — пахвалілі яго ў інтэрнэце.

Рэгіянальная міліцыя месцамі дзейнічала брутальна. Паводле звестак праваабаронцаў, падчас акцый было затрымана звыш 140 чалавек. Больш за ўсё — ад 20 да 35 удзельнікаў — у Гродне, Барысаве, Віцебску і Салігорску. Усіх адразу адпускалі.

### З прыцэлам на 3 Ліпеня

Маўклівыя пратэсты ў кожным горадзе працягваюцца паўгадзіны, пасля чаго ўдзельнікі разыходзяцца. Завадатары не хаваюць, што «серадовыя народныя гулянні» — падрыхтоўка да выніковай акцыі пратэсту, якая мае адбыцца падчас святкавання афіцыйнага Дня Незалежнасці.

**Віталь Несцераў**

# Залатая кілька

### Якія прадукты сярод рэкардсменаў па падаражанні ў чэрвені?

## Кусачая рыба

Рыба нечакана паказала здольнасць скакаць уверх не толькі ў жывой прыродзе, але і на прылаўку крамы. Цэны на хек на Камароўцы ўзняліся аж да 18 тысяч за кілаграм. Шчупак, пангасіус, тылапія (якіх урэшце адбілі ў дзяржавы) з хекам у адной кампаніі — ад 16 да 18 тысяч за кілю. А любімы ўсімі таўсталобік увогуле б’е рэкорд — ягоная тушка, пішуць на цэнніку, цяпер каштуе 22 400.

Яшчэ горш з філе і ўсялякімі рыбнымі паўфабрыкатамі. Філе тунца цяпер пацягне на 70 тысяч.

Кілька, якую куплялі ў якасці корму для катоў, імкліва ператвараецца ў ежу для людзей — яна падаражэла адразу ўтрая, ад 1800 да 5800 рублёў за кілаграм. Абсалютнай рэкардсменкай стала чырвоная рыба — дзе-нідзе за яе просяць паўмільёна.

## Чай, кава, палічым?

Такая ж непрыемная рэч здарылася з кавай. Якасная «арабіка», якая раней каштавала 23 тысячы, адразу падскочыла да 65 тысяч. І пры гэтым яе амаль немагчыма знайсці.

У тры разы ўзняліся цэны на гарбату: калі раней можна было купіць Tess тысяч за сем, цяпер цана на яе ўвесь час імкнецца пераскочыць дваццацітысячную мяжу.

Пакуль больш-менш стабільна каштуе «пыл грузінскіх дарог» накшталт «Прынцэсаў». Дзе-нідзе акрамя «Нуры» ды «Гіты» нічога і не засталося. Людзі згадваюць 90-я і гарбату «са сланом», чыё месца зараз занялі «Прынцэсы». Толькі з той розніцай, што ў склад апошніх гарбата ўсё ж уваходзіць. «Слана» ў гэтым западозрыць было немагчыма.

## Нешчаслівы Lucky Strike

Калі перад падаражаннем зніклі цыгарэты, курыльшчыкі ў стане, блізкім да панікі, імкнуліся знайсці хаця б што-небудзь даражэйшае за 2000 рублёў. І вось цыгарэты з’явіліся. Замест 3000 за Lucky Strike, маем 3870. Да крызісу столькі каштаваў Kent, які многія лічылі паказчыкам заможнасці. Найпапулярнейшы «сіні» Winston таксама каштуе больш за 3000, дый яго яшчэ і няма. Самыя дарагія цыгарэты Sobranie, цана якіх і раней (12 000) рабіла іх маладаступнымі, цяпер і ўвогуле сягнула 17 тысяч. Затое ўся лінейка танных айчынных гатункаў засталася даступнай і не знікала з прылаўкаў.

На фоне несуцяшальных новых цэнаў цвёрда трымалася шампанскае (тое, якое «Савецкае»), аднак і яго стабільнасць пахіснулася — замест 14 тысяч, яно каштуе цяпер 17 з нечым. У параўнанні з астатнім падаражанне нязначнае — пакуль яшчэ можна дазволіць сабе «з шыкам» адзначыць пераход на крызісны рацыён.

**Юрась Ускоў**


Чаканне.
PHOTO.BYMEDIA.NET

# Грошы не робяць шчасця

### Беларуску застрэлілі каля яе шыкоўнага дома ў Лос-Анджэлесе.

Алекс Міхельсон застрэліў жонку перад тым, як застрэліцца самому. Вера Міхельсон была беларускага паходжання, родам з Мінска. Яе муж — з Масквы.

Вера Міхельсон атрымала дзве кулі ў галаву, Алекс Міхельсон — адну, паведамілі амерыканскія газеты.

Алекс Міхельсон быў стаматолагам, ягоная жонка нядаўна атрымала тую ж прафесію.

У пары засталося двое дзяцей, 5 і 7 гадоў.

Міхельсоны толькі пераехалі ў новы дом. Паліцыянты паведамілі, што мэблі там пакуль мала. Суседзі сказалі дэтэктывам, што яны чулі тры альбо чатыры стрэлы паміж 11 раніцы і поўднем у сераду.

**КаМ**

**IN MEMORIAM**

# Памёр 40-гадовы гісторык Эдуард Мазько

У Гродне раптоўна пайшоў з жыцця гісторык Эдуард Мазько. Ураджэнец Кобрыншчыны, ён працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, займаўся вывучэннем дзейнасці Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў міжваенны перыяд, захапляўся паэзіяй.

Гэта быў сапраўдны інтэлектуал: навуковец, які жыў актыўным грамадскім жыццём, які адчуваў сябе адказным за краіну. Смерць сустрэла яго па дарозе дадому. Калегі кажуць, што не вытрымала сэрца.

У самыя цяжкія для «Нашай Нівы» часы ён падтрымліваў газету, у тым ліку і грашыма.

Рэдакцыя «НН» выказвае спачуванні родным і блізкім. Спі спакойна, дарагі таварыш.

**Рэд.**



# Алена Бонэр

### 18 чэрвеня ў ЗША памерла Алена Бонэр — легенда дысідэнцкага руху СССР, удава Андрэя Сахарава.



Яна пражыла 88 гадоў. Біяграфія Алены Бонэр можа быць хрэстаматыяй да падручніка па гісторыі эпохі. Як жыццё любога чалавека, які сваю эпоху перажыў і адпакутаваў. Калі б яшчэ існавалі асобныя падручнікі па гісторыі «настрояў розуму» ці дысідэнцтва. Вось толькі біяграфічны пункцір.

Яна нарадзілася ў 1923-м, у армянска-яўрэйскай сям’і. Бацькі, бальшавікі-камінтэрнаўцы, належалі да палітычнай эліты савецкай дзяржавы і падзялілі лёс вялікай часткі яе: іх рэпрэсавалі ў 1938-м. Бацьку, Геворка Аліханяна, аднаго з заснавальнікаў Бакінскай камуны, расстралялі, маці Руф Бонэр — выслалі.

Але, калі пачалася вайна, Алена, тады студэнтка педінстытуту, добраахвотна пайшла на фронт. Служыла медсястрой у санітарным цягніку, была параненая і кантужаная. Ваявалі не за Сталіна, а за Радзіму, казала яна пасля.

Па вайне Бонэр працягнула навучанне ўжо ў медінстытуце ў Ленінградзе. Адтуль яе выключылі за выказванні пра «справу дактароў». Атрымаць дыплом яна змагла толькі пасля смерці Сталіна.

У часы «адлігі» палітыка менш цікавіла Бонэр. Яна нават уступіла ў Камуністычную партыю. Паваротным момантам у крышталізацыі поглядаў на савецкі лад сталі чэхаславацкія падзеі 1968-га. Бонэр канчаткова далучаецца да праваабаронцаў.

Пачалося дысідэнцкае жыццё. Яна праходзіла як сведка, а часам як удзельніца, у гучных палітычных працэсах таго часу: «самалётнай справы» (яўрэеў-адказнікаў, якія спрабавалі ўгнаць самалёт, каб уцячы з СССР), Уладзіміра Букоўскага, украінца Анатоля Лупіноса, Аляксандра Салжаніцына, многіх іншых.

У 1970-м у Калузе Бонэр пазнаёмілася з акадэмікам Андрэем Сахаравым — адным з лідараў праваабарончага руху ў СССР на той час. У 1972-м яны пабраліся шлюбам, у тым самым годзе Бонэр выйшла з КПСС.

Алена засноўвае фонд дапамогі дзецям палітвязняў, Маскоўскую Хельсінкскую групу. Бонэр атрымлівае за мужа, якога не выпусцілі з краіны, Нобелеўскую прэмію міра. Разам з Сахаравым яна выступае за адмену смяротнага пакарання ў СССР і супраць уводу савецкіх войскаў у Афганістан.

У 1980-м іх разам арыштоўваюць і без суда высылаюць у Горкі (цяпер Ніжні Ноўгарад, Расія). У Горкім Сахараў з Бонэр вытрымліваюць некалькі працяглых галадовак пратэсту. Першай, 17-дзённай, яны дамагліся, каб нявестку Бонэр (жонку сына ад першага шлюбу) выпусцілі да мужа за мяжу. Пасля былі галадоўкі супраць крымінальнага пераследу Бонэр. Сахарава кармілі сілай у шпіталі.

У адрозненне ад нашай беларускай дысідэнткі Ларысы Геніюш, ім пашчасціла дажыць да пераменаў.

У 1987-м у іх пакойчык у Горкім правялі тэлефон. Спецыяльна для таго, каб генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў мог пазваніць і дазволіць Сахараву з Бонэр вярнуцца ў Маскву.

Яны з галавою кінуліся ў перабудову. Акадэмік Сахараў стаў народным дэпутатам СССР. З Бонэр яны бяруць удзел у заснаванні таварыства «Мемарыял».

Пасля смерці мужа ў 1989-м Бонэр з’ехала ў ЗША, да дзяцей. Яна ненадоўга вярталася на запрашэнне кіраўніцтва незалежнай Расіі, каб увайсці ў склад камісіі па правах чалавека пры Барысу Ельцыну. Але ў 1994-м пачалася першая чачэнская вайна. Бонэр, пратэстуючы, пакінула краіну. Яе дзеянні былі нібы лакмусавая паперка ўзроўню дэмакратыі ў краіне.

Бонэр памерла ў Бостане. Панявèрка чалавека, які пражыў поўнае стрэсаў жыццё, часам прарывалася ў ёй. «Пайшлі яны ўсе», — сказала яна неяк у інтэрв’ю з нагоды бясконцых лістоў пратэсту і зваротаў, якія даводзіцца падпісваць. У гэтым была стома: крах савецкай сістэмы не прывёў аўтаматычна Расію да дэмакратыі і квітнення.

Бонэр не раз уздымала голас супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Яна патрабавала вызвалення кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна, асуджанага пасля выбараў 2006 года.

Таксама, дзякуючы вялізнаму міжнароднаму аўтарытэту Алены Бонэр, у Мінску пасля чарнобыльскай катастрофы быў створаны сахараўскі каледж, які вывучаў праблемы радыяцыйнай бяспекі. Цікава, што яна не любіла, калі яе называлі ўдавой Сахарава: «Я сама па сабе».

Сярод апошніх падпісаных ёй лістоў быў зварот інтэлігенцыі «Пуцін павінен сысці».

Прах Бонэр будзе пахаваны ў Маскве на Вастракоўскіх могілках, побач з роднымі.

**Сяргей Мікулевіч**

# Мінск горад-шанец


PHOTO.BYMEDIA.NET

«П**му раёну — 80!»… «Ганаровы грамадзянін С**га раёна»… Але ёсць і іншы Мінск. Піша **Раман Абрамчук**.

Падчас адной са студэнцкіх краязнаўчых вылазак «у Мінск» мы заўважылі ў аднёўленым будынку XIX ст. у гістарычным цэнтры пластыкавыя вокны. Хтосьці з нас кідае: «Слухайце, як гэта мы дапусцілі?..» Прыйшло разуменне, што мы самі адказваем за тое, у якім горадзе нам жыць. Як за ўласны дом.

Мой Мінск — гэта ўсе яго «мінусы».

Чаму веласцежка ў горадзе — адна-адзіная, ды і тая так кружляе? Чаму навароченыя ліхтары на ёй не запальваюць? А потым аказваецца, што гэтым пытаннем ужо займаецца нейкая моладзевая ініцыятыва — яшчэ адна ластаўка ініцыятыўнай грамадзянскай супольнасці.

Так з'яўляюцца беларускамоўныя садкі ў Сухараве, нефармальны творчы клуб у Грушаўцы. Так узнікае ініцыятыва правесці Дзень вулічных музыкаў, як у Вільні. Гэта — пульс горада. Добра, што яго яшчэ можна намацаць.

Мой Мінск — гэта яго раёны.

Не, я кажу не пра Савецкі—Фрунзенскі—Партызанскі. Няўжо на іх глебе можна выхаваць нейкі «раённы патрыятызм»? Сувеніры з надпісам «П**му раёну — 80!» або званні «ганаровы грамадзянін С**га раёна» патыхаюць бяздушнасцю.

Але я адрозніваю Уручча, з яго разнастайнасцю спальнай архітэктуры і лясочкамі побач, з шыкоўным праспектам, што агнямі разразае раён надвое. Мяне вабіць Сляпянка з яе лясамі ў цэнтры горада, сядзібай Ваньковічаў.

Пачуццё замілавання выклікаюць прыватныя сектары каля Севастопальскага парку. І мяне прыгнятае, што армія спальна-блочных прастакутнікаў выціскае гэтыя стракатыя дамкі з майго горада. Жылыя кварталы Жэневы, Парыжа — гэта тыя ж нашыя прыватныя сектары. Нікому ў галаву там не прыйдзе іх «зачышчаць» дзеля танных шматпавярховікаў.

Справа ў нашай беднасці, жаданні зэканоміць. Але дзесьці замяшалася і беднасць душэўная. Узгадаем назвы прыпынкаў у Малінаўцы: «Школа», «Стадыён», «Магазін»... «Пустата». Пустата ў назвах, пустата ў сэрцах і памяці.

Мой Мінск — гэта і мае паркі.

Колькасць паркаў, іх тэрыторыя — паказчык таго, наколькі жыццялюбныя людзі жывуць у горадзе, колькі прасторы яны змаглі аддаць пад жыццёвае задавальненне, на шкоду пляцоўкам пад «новы элітны раёнчык». Ды не толькі пад задавальненне. Нябачныя алеі Чалюскінацаў, аддаленыя пагоркі парку Горкага, зацішныя паляны Дружбы народаў, заблытаныя сцежкі на Камсамольскім — колькі ўсяго абдумана, вырашана, развязана з іх дапамогай!..

Мой Мінск — гэта Менск.

Гэта тое, што ўсе мы, пачынаючы ад Дуніна-Марцінкевіча з Купалам, адкрылі для сябе пра свой горад. Бо, напрыклад, палякам не трэба адкрываць свой Мінск, ён у іх, Мінск-Літэвскі даўно існуе ў «польскай краёвай» літаратуры XIX ст., мемуарных успамінах... Але беларусы яшчэ толькі пачынаюць ствараць уласны Менск.

Адзін з прыкладаў — Лявон Вольскі і Міхал Анемпадыстаў, якія сваёй песняй паказалі, як раздвоена наша свядомасць:

Мы жывем аднaчасова ў двух
гарадах,
Падваенне асобы зрывае нам
дах.
Дык няўжо нам ніколі не
склеіць,
не сшыць
Менск і Мінск — дзве паловы
сталічнай душы?

У нас два родныя гарады: адзін — горад нашай мары, з кавярнямі, асяродкамі нефармальнай культуры, аднёўленым гістарычным цэнтрам, веласцежкамі. А другі — які пастаянна насоўваецца, наступае, з агрэсіяй і бяздушнасцю, на гэтую мару, на тое, што ўжо ўдалося рэалізаваць.

Але гэта — адзін горад, і яго можна толькі прыняць такім, які ён ёсць. Калі прыняць гэты горад, з яго «Калектарнай і Базіснай», недарэчным двухмоўем і іншымі «радасцямі», горад стане сваім. І з гэтым ужо можна штосьці рабіць, можна пракладаць далейшы шлях. Уласным спосабам.

# У Мінску вуліцу Ульянаўскую сімвалічна перайменавалі ў Быкава

Пакуль у краіне толькі адна «афіцыйная» вуліца Быкава — у Ждановічах.

Акцыю сімвалічнага перайменавання мінскай вуліцы Ульянаўскай 19 чэрвеня правялі актывісты кампаніі «Гавары праўду». Побач з цяперашнімі шыльдамі яны наляпілі альтэрнатыўныя. З Ульянаўскай яны прыехалі на Усходнія могілкі, павезлі на магілу народнага пісьменніка кветкі.

19 чэрвеня — дзень нараджэння Васіля Быкава. Класік літаратуры, намінаваны на Нобелеўскую прэмію пісьменнік, ён быў сярод тых, хто сваім аўтарытэтам падтрымаў рух за незалежнасць Беларусі. А пасля — супраціўленне новай дыктатуры.

Апошнія гады жыцця Васіль Быкаў пражыў у Фінляндыі і Чэхіі. Творца, якога называлі «сумленнем нацыі», рэзка выступаў супраць узмацнення аўтарытарызму ў краіне, і за гэта яго шальмавала афіцыйная прапаганда.

Толькі перад самым сконам Быкаў вярнуўся ў Беларусь. Памёр пісьменнік у 2003 годзе ў анкалагічнай бальніцы ў Бараўлянах. Сімвалічна, што Быкаў, які найлепшыя свае творы прысвяціў тэме Другой сусветнай вайны, адышоў з гэтага свету 22 чэрвеня — у дзень, калі немцы напалі на Савецкі Саюз.

Дагэтуль у Беларусі імем Васіля Быкава названая толькі адна вуліца — у аграгарадку Ждановічы пад Мінскам. Хоць грамадскасць Мінска, Гродна, Салігорска і іншых гарадоў не раз звярталася да гарадскіх уладаў з прапановай ушанаваць памяць пісьменніка.

Васіль Быкаў пахаваны на Усходніх могілках Мінска. У дзень яго нараджэння, у дзень скону туды прыходзяць людзі — пакласці кветкі, ушанаваць памяць пісьменніка. Таксама 19 чэрвеня адбылася імпрэза ў вёсцы Бычкі (Ушацкі раён, Віцебшчына) — на радзіме Васіля Быкава. Там уручылі традыцыйную прэмію «За свабоду думкі», заснаваную Рухам «За Свабоду» Аляксандра Мілінкевіча. Сёлета прэмію атрымаў паэт экс-кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Уладзімір Някляеў.

**Сяргей Гезгала; СМ**




**Бізнэсоўцу Андрэю Кабанаву, які задаў намесніку міністра эканомікі Андрэю Туру нязручныя пытанні пад «схаваную камеру», падарылі майку з надпісам «Дружище, ты живешь не по средствам!». Гэтая фраза Тура, вымаўленая на тым прыёме ў шведскім пасольстве, стала прытчай ва языцах. Майка Кабанаву дасталася ў часе ўручэння прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава.**

# Трылер ад Марціновіча

Журналіст і пісьменнік Віктар Марціновіч напісаў першы раман па-беларуску.

Ён называецца «Сцюдзёны вырай». Паводле задумкі аўтара, кніжка не выйдзе на паперы. Марціновіч выклаў яе ў інтэрнэце для вольнага спампоўвання. (У прыватнасці, знайсці раман можна на сайце мультымедыйнага часопіса 34mag.net.)

Пра што кніга? «Гэта трылер, у якім зладзеі і героі ўвесь час мяняюцца месцамі. Пры гэтым сутнасць дзеяння вельмі моцна завязаная на Беларусі, гэта прыгода адной палітэмігранткі», — адказаў аўтар «Беларускім навінам».

Віктар Марціновіч мае 33 гады, ён працуе кіраўніком дэпартамента палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня) і намеснікам галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Белгазета». Аўтар раманаў «Параноя» і «Сцюдзёны вырай».

**СМ**



# Аб'ектыўны партрэт вешальніка

У Беларусі выдадуць успаміны Мураўёва-вешальніка. Кніга выйдзе без купюр і з каментарамі.

Рыхтуе выданне літаратуразнаўца Аляксандр Фядута. Ён адзначыў, што «Записки об управлении Северо-Западным краем» віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва друкаваліся ў часопісах у XIX стагоддзі. Асобнай кнігай выходзілі ў пачатку XX стагоддзя, тады іх пераклалі і выдалі таксама па-польску, але без каментароў.

«Можна было б гэтым і абмежавацца. Калі б не спроба «ўваскрасіць» Мураўёва ў беларускай і расійскай афіцыёзнай гістарыяграфіі», — сказаў Аляксандр Фядута.

Успаміны адносяцца да перыяду знаходжання Мураўёва на пасадзе Віленскага генерал-губернатара. Яны выйдуць у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка». Праца пакуль толькі пачалася. Сп. Фядута спадзяецца цягам года яе скончыць.

«Наша задача — прафесійна адкаментаваць «Запіскі...», супаставіць выказванні «віленскага праконсула», як называў яго Герцэн, з дакументамі, успамінамі паўстанцаў, а не толькі яго памагатых і прыхільнікаў, з ацэнкамі сучасных даследчыкаў. Мы хочам даць беларускаму чытачу аб'ектыўны партрэт вешальніка».

Аляксандр Фядута таксама адзначыў, што плануе прааналізаваць купюры, зробленыя ў XIX стагоддзі пры падрыхтоўцы першага выдання.

**Сяргей Макарэвіч**

**Міхаіл Мураўёў**

1796—1866 — расійскі дзяржаўны дзеяч. Падчас паўстання 1863 года ён быў празначаны генерал-губернатарам Віленскай губерні. Адзначыўся тым, што жорстка задушыў паўстанне. Па яго загадах больш за сто чалавек былі пакараны смерцю, каля тысячы накіравалі на катаргу, больш за тысячу выслалі ў Сібір. Праводзіў палітыку радыкальнай русіфікацыі. Мянушку «Вешальнік» атрымаў, калі адказаў на пытанне, ці не сваяк ён павешанаму дзекабрысту Мураўёву: «Я не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, я з тых, якія вешаюць».

# Гісторыя Беларусі. Частка XIX

# Тураў: спрэчкі вакол канфесіі

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год. № 6, 8, 11, 18, 20.**

Калі князь Тур уяўляецца легендарнай, фактычна, міфалагічнай фігурай, то ўсё ж у канцы X ст. Тураў займеў уладара, пра якога мы можам казаць пэўна, як пра рэальную гістарычную асобу. У 988 г. кіеўскі князь Уладзімір Святаслававіч правёў важную рэформу адміністратыўнага кіравання падпарадкаваных Русі зямель. У мэтах умацавання цэнтральнай кіеўскай улады Уладзімір скасаваў мясцовае кіраванне — ад гэтага часу княжанні перадаваліся розным сынам кіеўскага князя. Менавіта тады з Ізяслава (Заслаўя) у Полацк выправіўся непаслухмяны Ізяслаў, а Тураў дастаўся аднаму са старэйшых сыноў (другому ці трэцяму) Уладзіміра — Святаполку.

## Загадка нараджэння

Паходжанне Святаполка было нявысветленым ужо для аўтараў XII ст. «Аповесць мінулых часоў» паведамляе, што Святаполк быў народжаны грачанкай, удавой кіеўскага князя Яраполка, — таго, што адначасова з Уладзімірам сватаўся да Рагнеды. Як і ў выпадку з полацкай гісторыяй, Уладзімір забіў Яраполка ды гвалтам узяў грачанку. Хоць яе шлюбны статус усё ж застаецца незразумелым — гэтая візантыйская манахіня была некалі ўхоплена для Яраполка яго бацькам Святаславам у адным з паходаў.

Аўтар летапісу сцвярджае таксама, што на момант уваравання Уладзіміра грачанка была ўжо цяжарнай («бе не праздна») і, такім чынам, біялагічным бацькам Святаполка быў Яраполк. Тым не менш, Уладзімір лічыў Святаполка сваім законным сынам, а летапісец называў яго сынам двух бацькаў, што напаўняе далейшы лёс Святаполка ўсё большымі супярэчнасцямі. Не выключана, што гісторыя пра падвойнае бацькоўства ёсць пазнейшай легендарнай устаўкай. Але адносіны тураўскага князя са сваім афіцыйным бацькам і суверэнам, кіеўскім князем Уладзімірам складуцца ў будучыні не найлепшым чынам.

## Польскі шлюб

Але спачатку Святаполк пайшоў на ажыццяўленне важнага палітычнага праекта — у 1009 ці 1010 г. адбыўся шлюб Святаполка Тураўскага і дачкі польскага князя Баляслава Храбрага. На жаль, мы не ведаем яе імя. Амбітны аднаўляльнік адзінства Польшчы з цэнтрам у Гнезна (пад Познанню), князь Баляслаў у 1025 г. стаў першым польскім каранаваным каралём.



**Польскі князь Баляслаў. Выява на «Гнезненскай браме» XII ст. — бронзавых дзвярах Гнезненскай архікатэдры. Адлюстраваны сюжэт, як Баляслаў выкупляе ў прусаў цела забітага імі хрысціянскага місіянера.**

Мы не ведаем ўсіх абставінаў шлюбу Святаполка і Баляслававай дачкі, але гэты саюз быў лагічны, бо менавіта з дрыгавіцка-тураўскім прасоўваннем на яцвяжскіх землях Пабужжа сутыкаўся каланізацыйны рух мазаўшан. Такім чынам, у пачатку XI ст. у Тураве, глыбокай правінцыі і па тым часе, апынулася польская князёўна разам са сваім капеланам біскупам Райнбернам (Reinbern). Пра гэтага падарожніка колькі словаў трэба сказаць асобна.

Як і многія харызматычныя прадстаўнікі лацінскага духавенства ў нашым рэгіёне, Райнберн паходзіў з Саксоніі. Ён прадстаўляў тую частку нямецкіх місіянераў і ўладароў, якія ў прасоўванні хрысціянства на паўночны ўсход Еўропы рабілі стаўку на Польшчу. У 1000 г. Райнберн быў абвешчаны першым біскупам новаўтворанай Калабжэгскай дыяцэзіі (Заходняе Памор'е) і актыўна змагаўся там з паганствам. Сучаснік Райнберна Тытмар, біскуп Мерзебургскі, у сваёй «Хроніцы» так апісваў місійную дзейнасць Калабжэгскага біскупа: «...Разбурыўшы свяцілішчы ідалаў, ён спаліў іх, скінуўшы ў шанаванае (паганцамі) мора духаў — чатыры камяні... і правёўшы ачышчэнне святой вадой».

Рэгулярна мы бачым яго таксама пры двары князя Баляслава Храбрага. Але што прымусіла Райнберна пакінуць сваю царкоўную тэрыторыю ды адправіцца ў Тураў? Мяркуецца, што каля 1007 г. у Памор'і (вядомае ў нямецкай традыцыі як Памеранія) пачалося паганскае паўстанне, што прывяло да ліквідацыі польскага панавання і ўзнікнення там мясцовай царкоўнай арганізацыі. Такім чынам, Райнберн застаўся без уласнай дыяцэзіі і мусіў рэалізоўваць палітыку Баляслава ўжо далей на ўсходзе Еўропы.

З-за абмежаванасці крыніц мы не ведаем усіх абставінаў дзейнасці польскіх і саксонскіх саноўнікаў у Тураве. Можна пэўна сцвярджаць толькі, што амбіцыі Святаполка і яго супярэчнасці з кіеўскім Уладзімірам змаглі абаперціся на падтрымку Баляслава і яго прадстаўнікоў.



**Срэбранік Святаполка. 1015—1016 гг. На галоўным баку (аверсе) выява князя з кругавым надпісам «Святаполк на стале». На адваротным баку асабісты княскі знак Святаполка — двухзубец, левы канец якога завершаны крыжам, а таксама надпіс «А гэта яго срэбра».**



ВЕРА ДЗЯДОК

**Старажытныя каменныя крыжы часоў хрысціянізацыі дрыгавічоў зберагаюцца ва Усіхсвяцкай царкве Турава.**

## Ці засноўваў Райнберн Тураўскае епіскапства?

Некаторыя познія рускія летапісы, найперш Ніканаўскі (XVI ст.), няпэўна паведамляюць пра існаванне царкоўных епархій у Тураве і Полацку. Сам факт стварэння епіскапстваў сведчыць пра ролю таго ці іншага гарадскога цэнтра і садзейнічае яго цывілізацыйнаму і культурнаму росту. Вядомы ж даследчык гісторыі царквы Яўген Галубінскі зазначаў: «З усіх дамангольскіх епархій невядомы час заснавання толькі трох (Полацкай, Тураўскай, Тмутараканскай)... усе тры названыя епархіі былі адчыненыя пры Уладзіміру».

Існуе яшчэ адна згадка пра Тураўскае епіскапства ў зборніку апавяданняў па гісторыі заснавання Кіева-Пячэрскай лаўры — «Кіева-Пячэрскім пацерыку», што вёўся ад XIII ст. У першай палове XVII ст. гэты тэкст рэдагаваў Іосіф Трызна — праваслаўны дзеяч Рэчы Паспалітай і архімандрыт (у дадзеным выпадку настаяцель) лаўры, які спачатку адмовіўся прысягаць на вернасць Пераяслаўскай радзе, што дэкларавала саюз Украіны з Масквой. Трызна ўключыў у «Пацярык» рэдкія гістарычныя матэрыялы, у тым ліку звесткі пра заснаванне Тураўскага епіскапства ў 1005 г.

У той самы час на даляглядзе з'яўляецца постаць Райнберна. Яшчэ Вацлаў Ластоўскі звязаў гэтыя падзеі і палічыў, што Святаполк «замест грэцкага духавенства... выпісуе з Нямеччыны ці з Польшчы лацінскага біскупа Рэйнберга і хрысціць тураўцаў». Пазней гэтае сцвярджэнне падтрымалі Сяргей Тарасаў і Алесь Жлутка, падзяляе яго і расійскі гісторык Алег Рапаў. Ім пярэчыць даследчык Палесся Пётр Лысенка, які звяртае ўвагу, што ў ніводнай крыніцы Райнберн не называецца епіскапам Тураўскім.

Каб падсумаваць дыскусію, варта заўважыць, што Райнберн прыбыў у Тураў усё ж у сане біскупа і наўрад ці яго місія абмяжоўвалася толькі тым, каб быць духоўнікам жонкі князя Святаполка. Да таго ж у той час Царква яшчэ афіцыйна не падзялілася, хоць культурныя і літургічныя адрозненні паміж заходнімі і ўсходнімі хрысціянамі існавалі. Але і пра стварэнне тураўскай епархіі ў той час мы не маем канкрэтных звестак. Імаверна, што біскуп Райнберн браў удзел у хрысціянізацыі дрыгавічоў. Археалагічныя дадзеныя пацвярджаюць, што змена паганскага абраду крэмацыі (спалення) нябожчыкаў хрысціянскім абрадам інгумацыі (пахавання) на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў адбылася менавіта ў перыяд уладарання князя Святаполка — у канцы X — пачатку XI ст.

Цалкам верагодна, што працэс хрысціянізацыі адбываўся няпроста. У тураўскіх паданнях аб тым, як па Прыпяці прыплылі каменныя крыжы ды сталі насупраць горада, а вада пасля гэтага афарбавалася крывёю, даследчыкі бачаць водгулле супраціву паганцаў. А яшчэ ў сярэдзіне XII ст. адзін з галоўных інтэлектуалаў таго часу Кірыл Тураўскі выкрываў праваслаўных святароў у тым, што яны бяруць удзел у гульбішчах нячысціка — паганства вельмі павольна пакідала абшары дрыгавіцкіх балотаў.

Далейшыя падзеі вакол Святаполка і Райнберна разгортваюцца імкліва.

## Супрацьстаянне

Апроч асабістай непрыязні паміж афіцыйнымі бацькам і сынам, Уладзіміра насцярожвала скіраванасць палітыкі Святаполка, які актыўна наладжваў кантакты з Польшчай. Леў Гумілёў у адпаведнасці з расійскай традыцыяй назаве Святаполка «першым рускім заходнікам». Усё скончылася зняволеннем Святаполка, яго жонкі і біскупа Райнберна. Бо Уладзімір жадаў перадаць кіеўскі стол (трон) свайму ўлюбёнаму і аднаму з наймалодшых сыноў Барысу, а Святаполк мог стварыць канкурэнцыю. У 1014 ці 1015 г. у вязніцы памірае біскуп Райнберг. Нямецкія тэолагі мяркуюць, што загінуў ён пакутніцкай смерцю.

Але 15 ліпеня 1015 г. памірае і сам Уладзімір. Зняволены ў Кіеве ці ў Вышгарадзе пад Кіевам, Святаполк апынуўся бліжэй за іншых братоў да цэнтра ўлады. Вызвалены кіянамі, ён быў абвешчаны кіеўскі князем і заняў пасад. Як маніфестацыю сваёй улады Святаполк загадаў біць манету — срэбранікі, падобныя да срэбранікаў Уладзіміра. Вядома каля 50 такіх манет, на аверсе якіх маецца выява князя з кругавым надпісам «Святополк на стале». На адваротным баку быў змешчаны асабісты знак тураўскага і новага кіеўскага князя — двухзубец, левы канец якога завершаны крыжам.

Але гэта быў усяго толькі пачатак драмы. На працягу таго ж 1015 г. загінулі тры зводныя браты Святаполка — князі Барыс растоўскі, Глеб мурамскі і Святаслаў драўлянскі. А ў барацьбу вакол Кіева і Палесся ўмешваецца цесць Святаполка князь Баляслаў.

Названыя сюжэты — тэма наступнага выпуску «Гісторыі Беларусі».

# Беларускі прадаваліся праз вэб-камеры

У Мінску «накрылі» адразу два віртуальныя дамы распусты.

Кожны раз навіна пра закрыццё нелегальнага публічнага дома ў Беларусі выклікае рэзананс. Але калі 18 чэрвеня закрылі аж два — рэзананс быў большы, бо гэтыя публічныя дамы прапаноўвалі паслугі ў інтэрнэце. А дакладней, сэкс праз вэб-камеру.

Вэб-камера — гэта невялікая відэакамера, якая падключаецца да камп’ютара. Вэб-камерамі карыстаюцца, напрыклад, людзі, якія перамаўляюцца праз інтэрнэт з дапамогай праграмы Skype, — камера дапамагае бачыць суразмоўцу. З дапамогай вэб-камеры таксама можна ўзяць відэаінтэрв’ю ў чалавека хоць на іншым кантыненце. А беларускае Таварыства аховы птушак часам усталёўвае вэб-камеру ля гнязда рэдкай птушкі — і праз інтэрнэт можна за ёй сачыць.

Па падобным прынцыпе дзейнічаюць і пастаўшчыкі віртуальных сэкс-паслуг. Толькі «птушак» прапануюць зусім іншага кшталту. Інтым па вэб-камеры — гэта такі сабе аналаг сэксу па тэлефоне, толькі з карцінкай, што робіць жыццё аматараў такіх уцех больш цікавым і разнастайным.

Вычварэнства? Ёсць такое, але пакуль існуюць людзі, згодныя плаціць за такога віду паслугі грошы, і грошы немалыя, публічныя дамы ў рэжыме анлайн будуць працаваць.

У элітных новабудоўлях у Мінску з’явіліся адразу два дамы распусты «новага тыпу». Працавалі яны ад 2010 года і арыентаваліся на жыхароў ЗША і Еўропы, якія былі асноўнай кліентурай. Працавалі дзяўчаты круглыя суткі, а за адну хвіліну аматарам інтэрнэт-адносінаў прыходзілася аддаваць ад 2 да 5 даляраў. Лагічна, што за год бізнэс прынёс сотні тысяч даляраў, а самі супрацоўніцы атрымлівалі ад 300 да 1000 даляраў на тыдзень, прычым у дэфіцытнай цяпер валюце. У арганізацыі бізнэсу ўдзельнічалі і грамадзяне Латвіі. Прынамсі, з мінскімі дзяўчатамі дамаўляліся латышы. Ва ўтрыманні «прытонаў для заняткаў прастытуцыяй» падазраюцца двое грамадзян Беларусі і грамадзянка Латвіі (падчас затрымання пры ёй знайшлі $20 тысяч наяўнымі). Па такім артыкуле ім можа пагражаць да дзесяці гадоў зняволення.

Аднак адразу ўзнікае пытанне: ці можна такі бізнэс лічыць прастытуцыяй, а студыю — прытонам для заняткаў прастытуцыяй? Калі «кліент» знаходзіцца за пару тысяч кіламетраў? Можа, гэта хутчэй незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць? Ці стварэнне і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў?

Навіна пра закрыццё публічнага дома выклікала гарачае абмеркаванне ў інтэрнэце. Некаторыя лічаць, што чалавек сам мусіць вырашаць, што рабіць са сваім целам, а таксама, ці атрымліваць за гэта прыбытак. Пры гэтым звычайна ўзгадваецца, што ў выніку дзеянняў супрацоўніц публічнага дома XXI стагоддзя ніхто не пацярпеў.

**Юрась Ускоў**



# Скандальны Дацык захацеў стаць грамадзянінам Беларусі



Ён перайшоў на беларускую мову і напісаў на ёй ліст Пуціну.

Скандальны крымінальнік Вячаслаў Дацык захацеў атрымаць беларускае грамадзянства.

Дацык — вядомы ў Расіі неанацыст, адзін з лідараў забароненага «Славянскага саюза» — арганізацыі, якая адмаўляла існаванне беларускай і ўкраінскай нацый. А яшчэ ён баксёр. Спартыўная слава прыйшла да яго пасля шэрагу баёў, некаторыя крыніцы нават называлі яго чэмпіёнам свету па «баях без правілаў».

У цэнтры грамадскай увагі ён апынуўся пасля таго, як абрабаваў некалькі ювелірных крамаў і салонаў сотавай сувязі. Дацык быў абвешчаны псіхічна хворым і накіраваны на прымусовае лячэнне. З бальніцы яму ўдалося збегчы ў Нарвегію, дзе ён папрасіў прытулку, праўда, няўдала. Дацыка экстрадзіравалі назад у Расію. Супраць фашыста, які знаходзіцца ў адзіночнай камеры піцерскай турмы «Красты», ужываюцца асаблівыя меры бяспекі: з камеры яго дазволена выводзіць толькі ў кайданках і ў прысутнасці кінолага з сабакам.

Цяпер крымінальнік раптоўна заявіў пра жаданне атрымаць... беларускае грамадзянства. Ён патрабуе перакладаць дакументы, датычныя яго, на беларускую мову і ўпэўнівае, што ягоны дзед быў беларусам. Нібыта, прозвішча яго было Дацук.

Баксёр крытычны да цяперашняй расійскай улады. Нядаўна ён накіраваў прэм’ер-міністру РФ Уладзіміру Пуціну здзеклівую заяву аб уступленні ў партыю «Адзіная Расія». Ліст напісаны ў двух экзэмплярах: па-расійску і на трасянцы, якую Дацык, відаць, лічыць беларускай мовай.

«Я хачу стаць на старану Пуціна і умесце з ім смяшаць кроў паследніх Русскіх у Інтэрнацыянальным межрассавам совусе і дабіць Русскі народ, які забыў сваіх прэдкау і пращурау заветы і стал рабом і цярпілам», — піша расійскі неафашыст.

Адказу не было.

**Віталь Несцераў**

## Сцісла

• **Жонку пасла Казахстана абакралі ў гандлёвым доме «На Нямізе».** У Цэнтральным РУУС Мінска распачатая крымінальная справа паводле ч. 1 арт. 205 па факце крадзяжу ў жонкі пасла Казахстана ў Беларусі Анатоля Смірнова. Злачынства было ўчынена ў гандлёвым доме «На Нямізе». У жонкі казахстанскага пасла выцягнулі кашалёк, у якім была дыпламатычная карта, банкаўская картка, 400 долараў і 300 тысяч рублёў.

• **Беларуска і яе сын атруціліся няякаснай вадой у Грэцыі.** Дапамога дактароў спатрэбілася жыхарцы Жлобіна і яе 8-гадоваму сыну. Здарэнне адбылося ў чатырохзоркавым гатэлі «Крыяпігі» на паўвостраве Халкідзікі. Атруціліся адразу 60 чалавек. Прычынай, паводле папярэдніх звестак, стала няякасная пітная вада. Папярэдні дыягназ — «гастраэнтэрыт». У бальніцы пакуль нікога не клалі.

• **Вылілася 26 тон шкла.** На ААТ «Брэсцкі электралямпавы завод» адбылася разгерметызацыя шклаварнай газавай печы. У выніку ў металічныя ўлоўнікі вылілася 26 тон расплаўленага шкла. Меркаваная прычына здарэння — разарвала сценку печы. Пацярпелых няма.

• **Дрэва ўпала на «Пежо».** У ноч на нядзелю ў адным з двароў па вуліцы Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску не пашанцавала ўладальніку «Пежо». На яго аўтамабіль ўпала дрэва.

• **Жанчына за забойства атрымала год і 10 месяцаў, бо баранілася.** Суд Гродзенскай вобласці вынес вырак 29-гадовай жыхарцы вёскі Гардзіеўцы Ашмянскага раёна, якая нажом ударыла свайго 74-гадовага сужыцеля. Мужчына памёр на месцы. Здарэнне адбылося ў доме пенсіянера пасля яго дня нараджэння. Напіўшыся, гаспадар стаў чапляцца да сужыцелькі, біць яе табурэткай па галаве. Тая вымушаная была абараняцца.



• **Пачатак тэставання быў азмрочаны ў Столінскім раёне трагедыяй.** Мікрааўтобус са Столінскага раёна, на якім везлі дзяцей на тэставанне ў Пінск, трапіў у аварыю. За рулём знаходзілася жанчына, якая везла сына і яго сяброў на ЦТ. Каля вёскі Калоднае яны сталі абганяць фуру і ў лоб сутыкнуліся з сустрэчнай «Аўдзі». Кіроўца і пасажыры мікрааўтобуса атрымалі невялікія ўдары, а вось 51-гадовы кіроўца «Аўдзі» ў цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу, яго жонка загінула на месцы.

• **У Лельчыцкім раёне згарэў Дом культуры.** У вёсцы Дзяржынск Лельчыцкага раёна згарэў Дом культуры. Засталіся адны сцены. Найбольш верагодныя версіі ўзнікнення пажару — трапляннне маланкі, неасцярожнае абыходжанне з агнём або парушэнне правіл эксплуатацыі электраабсталявання. Дакладная прычына высвятляецца.

• **16 чэрвеня ў адной з вайсковых часцей салдат тэрміновай службы першага перыяду здзейсніў суіцыд, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Мінабароны.** Створаная спецыяльная камісія Міністэрства абароны. Камісія правярае абставіны прызыву, службы, стану здароўя салдата. У прыватнасці, удакладняюцца прычыны яго знаходжання на лячэнні ў ваенна-медыцынскай установе на працягу месяца.

**СМ**

# Будслаўскі фэст

1 і 2 ліпеня ў Будславе, на Мядзельшчыне, адбываецца фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай, Апякункі Беларусі.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Штогод там збіраюцца дзясяткі тысяч людзей. Традыцыя масавых пілігрымак у Будслаў аднавілася за незалежнасцю, на пачатку 1990-х. Вернікі з Беларусі і ўсяго свету прыходзяць да касцёла пакланіцца абразу Нябеснай Апякункі Беларусі. Фэст у Будславе зрабіўся самым велічным, урачыстым і, зрэшты, самым беларускім святам краіны.

Кульмінацыяй фэсту з'яўляецца ўрачыстае шэсце з цудатворнай іконай. Дзясяткі тысяч людзей з запаленымі свечкамі абыходзяць цэнтральную плошчу мястэчка і вяртаюцца да касцёла. Нібы жывая вогненная рака плыве перад велічнай базілікай. Гэта прыгожы і велічны момант, які абавязкова трэба пабачыць на свае вочы, каб адчуць гісторыю і ўрачыстаць свята Маці Божай Будслаўскай.

Гісторыя Будслаўскай святыні пачынаецца з 1504 г., калі вялікі князь літоўскі Аляксандр падарыў паселішча Буда віленскаму кляштару бернардынцаў. Браты-бернардынцы раскарчавалі кавалак пушчы на ўзбярэжжы ракі Сэрвач і ў 1530 паставілі там невялікую драўляную капліцу.

У канцы XVI ст. у Будславе ўжо існавалі касцёл і кляштар бернардынцаў. Тады ж з'явіўся і славуты абраз Маці Божай. Спачатку ён належаў мінскаму ваяводу Яну Пацу. Ваявода прывёз яго з Рыма — як падарунак ад Папы Клімента VIII, пасля пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. Пасля смерці ваяводы святыня перайшла да яго капелана. А той ахвяраваў яе касцёлу.

Першы цуд абраза Маці Божай Будслаўскай быў зафіксаваны ў 1617, калі да пяцігадовага сляпога хлопчыка Язапата Тышкевіча вярнуўся зрок. Пазней гэты хлопчык стаў вядомым ксяндзом-кармелітам. У той жа дзень Рэджынальд Тышкевіч пазбавіўся ад падучай хваробы, на якую хварэў сем гадоў. Пасля таго сцены драўлянага касцёла былі заклееныя сотнямі паперак з просьбамі да Маці Божай Будслаўскай.

Да сярэдзіны XVII ст. на месцы драўлянага паўстаў невялікі каменны касцёл. Для змяшчэння цудатворнага абраза майстра Пятро Грамель у 1649 стварыў разьблёны алтар. А бернардынцы-злотнікі Геранім Плонскі і Бенедыкт Росман вырабілі срэбраныя аздобы для іконы — аклад і ажурную раму.

У 1767 быў закладзены першы камень новага касцёла. Велічная базіліка паўстала за 16 гадоў. Першы, стары касцёл, не зносілі: ён застаўся ў выглядзе бакавога памяшкання храма, у яго можна патрапіць праз дзверы з тыльнага боку вялікага храма. Патрапіць, нібы ў іншую архітэктурную эпоху. З прыземістымі скляпеннямі, галовамі грубавата-сярэднявечных анёлаў на сценах. У малым касцёле і сёння месціцца той драўляны, чорны з золатам, з фігурамі святых, алтар.

Да сярэдзіны XIX ст. Будслаўскі кляштар быў асяродкам не толькі духоўным, але і асветніцкім. Пры кляштары дзейнічала пачатковая школа, музычная школа, быў і шпіталь для бедных.

У 1858 новая ўлада зачыніла кляштар. Кляштарныя будынкі пасля здушэння паўстання Каліноўскага былі перададзеныя царскім войскам, а пасля зусім разабраныя. Застаўся толькі велічны касцёл.

Яго штодня бачылі вучні першай беларускай гімназіі, створанай у Будславе ў 1918, яго вежы, высока ўзнятыя над навакольнымі лясамі, пэўна, сніў у Канадзе Старшыня Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч, народжаны ў Будславе.

За польскім часам будынак касцёла актыўна рэстаўравалі і абнаўлялі. Колькасць вернікаў у парафіі дасягнула сямі тысяч чалавек. Шырылася і традыцыя фэсту. На 1 і 2 ліпеня ў Будслаў з'язджаліся тысячы паломнікаў усіх канфесій. Пазней, у савецкі час, касцёл не перапыняў дзейнасці. Ніводная спроба сталіністаў узарваць касцёл не атрымалася. А замах мясцовага сельсаветчыка на цудоўны абраз Маці Божай, кажуць людзі, скончыўся для яго вар'яцтвам і хуткаю гвалтоўнаю смерцю.

Хоць цемрашальства святыня паспытала. Калі ў 1990-я з іконы Маці Божай знялі аклады, каб рэстаўраваць, пабачылі, што яна ў некалькіх месцах прабітая, прастрэленая і нават прапаленая.

**НШ**

### Пілігрымка з Мінска

Пілігрымка пехатой на Будслаўскі фэст выпраўляецца 27 чэрвеня а 8-й раніцы ад Катэдры на плошчы Свабоды. Даведкі па т.: (029) 682-27-50 (а. Антоні Клемантовіч).

### Расклад святкавання і набажэнстваў

**1 ліпеня (пятніца)**

13.00–17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя
18.00 — святая Імша для пілігрымаў
20.00 — Акафіст
21.00 — марыйныя Нешпары
23.00 — святы Ружанец
24.00 — працэсія і святая Імша

**2 ліпеня (субота)**

02.00 — моладзевая праграма (палатачны гарадок; вядучыя — пілігрымы з Івянца і Баранавіч)
02.00 — святая Імша грэка-каталіцкага абраду (перад абразом Маці Божай)
04.00 — адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
05.30 — Гадзінкі да Маці Божай
06.00 — святая Імша перад абразом Маці Божай (цэлебруюць айцы-бернардынцы)
07.30 — святы Ружанец
08.30 — святая Імша на польскай мове (цэлебруюць айцы-новапрэсвітары)
10.00 — мультымедыйная пілігрымка «Марыйныя санктуарыі свету»
10.30 — святая Імша, выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту, працэсія
13.00 — святая Імша.

## КАНЦЭРТЫ

### Вольнае паветра—2011




**2 ліпеня ў Беларусі** выступяць паўтара дзясятка этна-артыстаў з розных краін. Фестываль «Вольнае паветра—2011» пройдзе пад адкрытым небам на маляўнічым хутары Шаблі каля вёскі Малое Запруддзе (Валожынскі раён, 80 км ад Мінска ў бок Вільні, арыенцір — вёска Гародзькі).

Акрамя беларускіх выканаўцаў сучаснага фольку (Dzivasil, Akana, «Нагуаль»), на фестывалі ўпершыню выступяць музыкі з розных куткоў Расіі («Комба Бакх», «Таки Да»), а таксама калектывы з Польшчы (Zywiolak, Wadada, DJ Wojcio), Украіны («Бальян Сауна Сістэм»), Літвы (Sovijus) і Сербіі (Shazalakazoo).

Музыкі будуць іграць ад 15.00 да 6.00. Квіткі каштуюць 20 тысяч рублёў (уваход) ці 50 тысяч (уваход + кемпінг). Дзе купіць: у бары «Малако» (пр. Незалежнасці, 37а), каса КЗ «Мінск» (вул.Кастрычніцкая,5), пераход ст.м. «Пл.Якуба Коласа» (выхад да Філармоніі), а таксама ў сістэмах kvitki.by і ticketpro.by. Даведкі па т.: (029) 655-55-96, (033) 655-55-96.

### Neuro Dubel

**30 чэрвеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Neuro Dubel. Пачатак а 19-й.

### N.R.M. іграе акустыку на «Жывым Тузіне»

**8 ліпеня ў «Графіці»** — «Тузін. Unplugged». Бяруць удзел: N.R.M., «Мутнаевока». **Пачатак а 19-й.**

### Фестываль электроннай музыкі Global Gathering

**25 чэрвеня на аэрадрове «Баравая»** — Global Gathering Freedom Festival—2011. Хэдлайнеры фестывалю — Armin Van Buuren і Groove Armada (Грув Армада). У рамках фестывалю таксама выступіць Gareth Emery (Гарет Эмери), Drum&Bass Pendulum…

### «Ў нескладовае» і «Братья Грим»

**22 чэрвеня ў клубе «Мулен Руж Show» (вул. Кальварыйская, 1)** гурт «Ў нескладовае» прэзентуе сінгл «Станцыя». Спецыяльны госць — гурт «Братья Грим» (Расія). **Пачатак а 20-й.**

### Open Music Fest II

**28 чэрвеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Open Music Fest II. Фінал. **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Aeternus et momentum

**Да 22 ліпеня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** — рэтраспектыва работ street-art-мастака Андрэя Бусла. Ён пераасэнсоўвае ў тэхніцы street-art сусветныя шэдэўры мастакоў Рэнесансу.

### Viatoris глядзіць на зоркі

**Выставы жывапісу Пятра Яргуша (Кракаў)** «Viatoris глядзіць на зоркі» працуюць у галерэі TUT.BY (В.Харужай, 1а, 6 паверх) і ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» (г.Заслаўе, вул. Рыначная, 4). Viatoris у перакладзе з лацінскай мовы азначае «падарожнік».

### Ротмістр Вітольд Пілецкі

**Да 24 ліпеня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе дакументальная выстава «Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901 — 1948». Яе зладзіў Польскі інстытут у Мінску ў гонар нацыянальнага героя — арганізатара польскага падполля ў Асвенціме і ўдзельніка Варшаўскага паўстання, расстралянага саветамі пасля вайны.

### Арт-лінія

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выстаўкі графікі «Арт-лінія».

## ТЭАТРЫ

**17 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Раман + Юлія»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

**18 чэрвеня**

**Лялек** — «Марозка»

**19 чэрвеня**

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**20 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Дзікае паляванне караля Стаха»

**21 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»
**Оперы і балета** — «Трышчан і Ізота. Пахіта»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**22 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

**23 чэрвеня**

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»

**24 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Купалаўскі** — «Зіма»

**25 чэрвеня**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

**26 чэрвеня**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Cerf-volant / Летучы над...»

**27 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**28 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Паўлінка»

**29 чэрвеня**

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

**30 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Дзеннік паэта (Інтымны дзённік)»

## КІНО

### Бунт вушастых

**Hop**
ЗША, 2011, каляровы, 95 хв.
**Рэжысёр:** Цім Гіл
**Жанр:** Анімацыйна-іграваая камедыя для ўсёй сям'і
**Адзнака:** 3,5 (з 10)

Карціна Ціма Гіла — сярэдненькае спалучэнне анімацыі з іграўым кіно. Фішка фільму — амерыканскія знакамітасці, якіх «зводзяць» з анімаванымі персанажамі. На экране пануе Галівуд з яго культамі і штампамі.

**Андрэй Расінскі**



Кактэбельская даліна.



# Валанцёрскія летнікі


PHOTO.BYMEDIA.NET

Як сумясціць бясплатны адпачынак з карысной працай.

Пражыванне ў большасці з гэтых летнікаў — намётавае, харчаванне можа быць бескаштоўнае ці часткова аплачваецца самімі валанцёрамі. Падрабязнасці найлепей даведвацца ў арганізатараў.

### Строчыцы

**Месца правядзення:** Музей народнай архітэктуры і побыту, в. Озярцо, Мінскі раён.
**Даты:** 5.07 — 15.07.2011.
**Тып работ:** працы па добраўпарадкаванні тэрыторыі музейнага комплексу, абмеры, пленэр.
**Арганізатар:** МГА «Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў».
**Кантакты:** (029) 380-99-60 (Леў).

### Любча над Нёманам

**Месца правядзення:** г.п. Любча, Навагрудскі раён.
**Даты:** 8.07 — 19.07.2011.
**Тып работ:** рэстаўрацыйныя працы на замку, чыстка замкавага парку, нарыхтоўка будаўнічых матэрыялаў, археалагічныя працы, абмеры, пленэр.
**Арганізатар:** МГА «Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў».
**Кантакты:** (029) 601-47-77 (Улад).

### Мураванка

**Месца правядзення:** в. Мураванка, Шчучынскі раён.
**Даты:** 4.08 — 14.08.2011.
**Тып работ:** прыборка.
**Арганізатар:** МГА «Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў».
**Кантакты:** (044) 740-24-62 (Дзмітры).

### Крэўская унія

**Месца правядзення:** в. Крэва, Смаргонскі раён.
**Даты:** 1.07 — 15.08.2011.
**Тып работ:** археалагічныя раскопы, рэкультывацыя, збудаванне кансервацыйных канструкцый, прыборка тэрыторыі.
**Арганізатар:** ДФ «Крэўскі замак».
**Кантакты:** (029) 551-33-35 (Вольга).

### Гальшаны

**Месца правядзення:** в. Гальшаны, Ашмянскі раён.
**Даты:** 1.08 — 15.08.2011.
**Тып работ:** прыборка і апісанне надгробкаў на старадаўніх могілках.
**Арганізатар:** ГА «Беларускі камітэт ICOMOS».
**Кантакты:** (029) 277-29-44 (Наста).

### Замкі Беларусі

**Месца правядзення:** в. Залессе, Смаргонскі раён.
**Даты:** 13.07-26.07.2011.
**Тып работ:** добраўпарадкаванне тэрыторыі сядзібы XIX ст. М.К.Агінскага.
**Арганізатар:** «Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЭСКА».
**Кантакты:** (017) 237-48-57.

### Спадчына Радзівілаў

**Месца правядзення:** г. Нясвіж.
**Даты:** 3.07 — 17.07.2011.
**Тып работ:** добраўпарадкаванне тэрыторыі парку, археалагічныя раскопы.
**Арганізатар:** «Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЭСКА».
**Кантакты:** (017) 237-48-57.

### Раскопкі ў Докшыцкім раёне

**Месца правядзення:** в. Бірулі, Докшыцкі раён.
**Даты:** 3.07 — 27.07.2011.
**Тып работ:** археалагічныя раскопкі на помніках X ст.
**Арганізатар:** археолаг Андрэй Вайцяховіч.
**Кантакты:** (029) 578-23-75.

### Археалагічная экспедыцыя «Палатыда-2011»

**Месца правядзення:** в. Лучна, Полацкі раён.
**Даты:** прымаюцца валанцёры на любы тэрмін, пачынаючы ад 27 ліпеня.
**Тып работ:** археалагічныя раскопкі комплексу феадальнай сядзібы XI — XVI стст., могільніка XII–XIII стст., XVI–XVII стст.
**Арганізатар:** археолаг Марат Клімаў.
**Кантакты:** (029) 776-26-75.

### Раскопкі ў Гальшанах

**Даты:** 1—31 жніўня (некалькі выездаў тэрмінам на 7—10 дзён і, магчыма, выезды ў верасні).
**Тып работ:** раскопкі княскага гарадзішча (XIV—XVI стст.) і могільніка XII—XIII стст.
**Арганізатар:** Павел Кенька.
**Кантакты:** (029) 765-17-04 (Павел), (029) 878-19-18 (Яўген).

**Budzma.org**

# Калькулятар адпачынку — 2011

Колькі каштуюць туры на папулярныя курорты?

Лічыцца, што ў ліпені на большасці курортаў наступае «самы» сезон, які падымае кошт адпачынку на 10–20%. Аднак калькулятар адпачынку паказвае, што цэны на некаторых кірунках не толькі не выраслі, але і нават крыху зменшыліся.

Умовы: сям'я з трох чалавек (двое дарослых плюс 10-гадовае дзіця), дзесяць дзён адпачынку, гатэль 3 зоркі, харчаванне — пажадана сняданак-вячэра, вылет з Мінска. Час адпачынку — пачатак ліпеня. Падкрэсліваем, выніковая сума — гэта цана на сям'ю!

### Балгарыя (вылет 5 ліпеня)

Напрыклад, гатэль Koral 3*, курорт — Сазопаль
**Турпакет на траіх (авіяпералёт + гатэль з харчаваннем):** 1150 еўра.
**Віза:** 60 еўра для дарослага, 35 еўра для дзіцяці ад 6 да 12 гадоў (60х2 +35 = 155).
**Медстрахоўка:** каля 15 еўра на траіх.
**Дадаткова** — абеды (20–30 еўра на траіх), аплата лежакоў і парасонаў на пляжы — каля 10–15 еўра ў дзень на траіх.
**Разам:** на паездку ў Балгарыю вам спатрэбіцца не менш за 1620 еўра.

### Грэцыя (вылет 4 ліпеня)

Напрыклад, Limas Hotel 3*, курорт — востраў Крыт
**Турпакет на траіх (авіяпералёт + гатэль з харчаваннем):** 1660 еўра.
**Віза:** 80 еўра для дарослага, дзіцяці да 12 гадоў — бясплатна
**Заўвага:** часцей за ўсё грэчаская віза адкрываецца ў Маскве. Кошт разам з афармленнем дакументаў складае 80–90 еўра (у залежнасці ад турапэратара) для дарослага, 30 еўра — для дзіцяці да 12 гадоў.
**Медстрахоўка:** каля 15 еўра на траіх.
**Дадаткова** — абеды (30–40 еўра на траіх), аплата лежакоў і парасонаў на пляжы — каля 10–15 еўра ў дзень на траіх.
Разам: на паездку ў Грэцыю збірайце як мінімум 2235 еўра.

### Іспанія (вылет 9 ліпеня)

Напрыклад, Mar Ski 3*, курорт — Коста Брава
**Заўвага:** палётная праграма ў Іспанію з Мінска разлічаная на туры працягласцю 7 або 14 дзён. Дадзены варыянт пралічаны на тыдзень адпачынку — затое не з паўпансіёнам, а паўнавартаснымі сняданкамі, абедамі і вячэрамі.
**Турпакет на траіх (авіяпералёт + гатэль з 3-разовым сілкаваннем):** 1530 еўра.
**Віза:** 80 еўра для дарослага, 50 еўра — для дзіцяці ад 6 да 12 гадоў.
**Заўвага:** у кошт уваходзіць афармленне дакументаў, бо расійскія турапэратары адкрываюць візы праз Маскву.
**Медстрахоўка:** каля 15 еўра на траіх.
**Дадаткова** — аплата лежакоў і парасонаў на пляжы (даречы, гэты гатэль размешчаны на першай лініі) — каля 15–20 еўра ў дзень на траіх.
**Разам:** збірацца на адпачынак у Іспанію варта, калі ў вас ёсць 1860 еўра.

### Турцыя (вылет 3 ліпеня)

Grand Troyka Hotel 3*, рэгіён — Аланья
**Заўвага:** для Турцыі трошкі змененыя ўмовы. Вядома, ехаць у Турцыю і не ўзяць «усё ўключана» — крыху дзіўна. Таму поўны all inclusive, а значыць, мінімум дадатковых выдаткаў на харчаванне!
**Турпакет на траіх (пералёт + гатэль з харчаваннем):** 1890 даляраў.
**Віза:** 20 даляраў на чалавека (20х3 = 60).
**Медстрахоўка:** каля 15 даляраў на траіх.
**Разам:** правесці адпачынак у Турцыі можна, назбіраўшы як мінімум 1965 даляраў.

### Чарнагорыя (вылет 6 ліпеня)

Напрыклад, Nada Villa, курорт — Будва
**Заўвага:** 90% прапаноў ад беларускіх турфірмаў складаюць не гатэлі, а вілы. Сілкаванне на чарнагорскіх вілах часцей за ўсё адсутнічае, затое нумары абсталяваныя мінікухнямі.
**Турпакет на траіх (пералёт + віла без харчавання):** 1705 еўра.
**Віза:** для беларусаў пакуль не патрэбная.
**Медстрахоўка:** каля 15 еўра на траіх.
Дадаткова — аплата харчавання (сняданак у нумары + абед і вячэра ў кавярні на траіх абыдзецца ў 30–40 еўра ў дзень). Аплата лежакоў і парасонаў на пляжы — каля 10 еўра ў дзень на траіх.
**Разам:** пакаваць чамаданы ў Чарнагорыю можна смела, калі з сабой ёсць 2120 еўра.

### Украіна (выезд 3 ліпеня)

Напрыклад, база адпачынку «Ніка», курорт — Затока (Адэская вобласць).
Зноў абраны гатэль, апісанне якога падыходзіць пад звычайную «троечку». У нумарах гэтага гатэля, размешчанага проста на беразе мора (!), ёсць кандыцыянер, тэлевізар і халадзільнік. Да таго ж, усіх гасцей «Нікі» забяспечваюць сняданкамі, абедамі і вячэрамі.
**Турпакет на траіх (праезд аўтобусам + гатэль + 3-разовае сілкаванне):** 910 даляраў.
**Віза:** адсутнічае.
**Медстрахоўка:** каля 10 даляраў на траіх.
**Разам:** на адпачынак ва Украіне вам спатрэбіцца 920 даляраў.
P. S. Кошт тураў у дадзеных гатэлі ў розных туркампаніях можа адрозніваецца ад названых. У выніковай суме не ўлічваліся купля сувеніраў, экскурсіі і іншыя адпачынкавыя радасці.

**Каця Апарына, tio.by**

**Зводны рэйтынг**

Украіна — 648 еўра
Турцыя — 1393 еўра
Балгарыя — 1620 еўра
Іспанія — 1860 еўра (7 дзён)
Чарнагорыя — 2120 еўра
Грэцыя — 2235 еўра



Сапраўдная беларуская кухня

### Кокс з малін альбо суніц

**2 шклянкі малінавай масы альбо суніц, 200 г цукру, 13 бялкоў, карыца. Да гэтага вяршкі і цукар.**

Працерці праз густое сіта маліну альбо суніцы, дзве шклянкі гэтай масы змяшаць з 200 г цукру і трыма бялкамі і ўзбіваць на лёдзе лыжкай да белага колеру і густаты. Узбіць пену з дзесяці бялкоў, змяшаць з узбітай масай, акуратна ўкласці на паўмісак, абсыпаць цукрам і карыцай і паставіць у печ на пятнаццаць хвілін. Да гэтага падаваць вяршкі і цукар.

Прапорцыя на дванаццаць асоб.

Кокс — старасвецкая назва дэсерту, які робіцца з садавіны, запечанай з узбітымі бялкамі.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**
**Падрыхтавала НБ**

ЗДАРОЎЕ

### Медыкі рэкамендуюць у спёку хадзіць басанож па траве

У спёку рэкамендуецца пры першай магчымасці гуляць басанож па траве. На ступаках шмат кропак, якія адказваюць за работу арганізма, у тым ліку за тэрмарэгуляцыю.

Каб лягчэй пераносіць сквар, медыкі рэкамендуюць адмовіцца ад салодкіх напояў на карысць мінеральнай вады. У яе складзе ёсць мікраэлементы, якія аднаўляюць водна-салявы баланс, паколькі менавіта соль і ваду арганізм губляе ў спёку.

Калі асноўную частку дня даводзіцца быць у душным памяшканні, можна пакласці пад язык ледзянец. На ніжнім баку языка знаходзіцца кропка, якая стымулюе работу сардэчна-сасудзістай сістэмы і танізуе арганізм. Дапаможа арганізму і зялёная гарбата.

Лягчэй перанесці спёку дапаможа мята. Яе лісцік трэба размяць у руках і хвіліну націраць ім скроні. У мяце прысутнічае ментол, які мае ахаладжальны эфект, а на скронях сасуды размешчаны блізка да паверхні скуры, і прахалода хутчэй дабярэцца да іх.

**БЕЛТА**

НОВЫЯ ТВАРЫ

### У Белавежскай пушчы з'явілася Лясная Фея

У чэрвені ў маёнтку беларускага Дзеда Мароза з'явіўся новы чароўны герой — Лясная Фея. Галоўная памочніца Дзеда Мароза будзе радаваць дзетак і дарослых да самых халадоў — да прыезду Снягуркі і Матухны Зімы. Сустракаць гасцей яна будзе каля высачэзнай елкі, дзе будуць праводзіцца конкурсы і гульні.

Экскурсія па маёнтку беларускага Дзеда Мароза для дарослых каштуе 18 600 рублёў, для дзяцей — 11 600 рублёў.

Беларускі Дзед Мароз прымае гасцей круглы год. Калі да яго звяртаешся па-беларуску, пераходзіць на беларускую.

**Tio.by**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**19 чэрвеня ў Мінску прайшоў парад нявест.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**На плошчы Незалежнасці ў Мінску мантуюць пано да 3 Ліпеня.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**Камічная памылка: беларуская міліцыя не ведае, як пішацца слова «милиция». Раней надпіс «міліцыя» на вопратцы спецназа наносіўся на беларускай мове. Цяпер яго пачалі пісаць па-расейску. Але не пераклалі да канца. Прэс-служба МУС адказала: майкі заменяць.**



**Раней на 50-тысячных купюрах было напісана «пяцьдзесят», цяпер — «пяцьдзясят». Між тым, і тыя, і тыя купюры пазначаныя 2000 годам. Як патлумачылі ў прэс-службе Нацбанка, змены ў напісанні тлумачацца зменамі ў правапісе беларускай мовы, замацаванымі новым Законам. А вось год заўжды пазначаецца той, калі купюра дадзенага наміналу была запушчаная ў абарот.**

## Шаноўныя чытачы!

Наступны нумар «НН» выйдзе праз два тыдні, 6 ліпеня.

Гарачага Вам адпачынку!

## Анекдоты

«Вось як мы ідзём спакойна, так і пойдзем. А потым — паскорымся. Больш я сказаць вам проста не магу і не маю права. Не таму, што я цямню. Таму, што нам трэба дакладней выбраць курс, ці выхад з балота, у якое мы трапілі», — казаў Іван Сусанін.

* * *

Высветлілася, навошта Мясніковіч лётаў у Ізраіль. Ён паклаў запіску ў Сцяну Плачу з просьбай пераадолець эканамічны крызіс і вярнуць даляры ў абменнікі.

* * *

Беларусь увяла забарону на вываз макулатуры з тэрыторыі краіны. Цікава, ці азначае гэта, што цяпер забаронена вывозіць беларускія рублі, каб абмяняць у Вільні?

* * *

У спіс асобаў, абавязаных плаціць 100% за камунальныя паслугі, будуць уключаныя таксама Макс Мірны, Аляксандр Глеб і Вікторыя Азаранка. Яны таксама сацыяльную нагрузку не нясуць, дзяржаве не дапамагаюць. Ніякай карысці ад іх — нават у хакей не гуляюць.

* * *

Пасля народных гулянняў Мінгарвыканкам дадаў яшчэ адну пляцоўку да спісу месцаў, дзе забаронена ладзіць масавыя мерапрыемствы. Гэтая пляцоўка абмежаваная Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогай.

* * *

Жаночая мудрасць: няма мужчынлайдакоў — ёсць няправільна адматываваныя і дрэнна адстымуляваныя.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Адэса.** У Адэсе арыштавалі хеўру, каторая прадавала жанок у гарэмы і дамы распусты. Арганізацыю ўдалося раскрыць дзякуючы працы таварыства апекі над жанкамі.

**«НН». № 25. 1911.**

**Следчы з групы па справе Завадскага Зміцер Петрушкевіч заявіў,** што ўлады перашкодзілі расследаванню магчымага саўдзелу камандзіра спецпадраздзялення хуткага рэагавання МУС Паўлічэнкі ў гучных злачынствах. Ён заявіў таксама, што міністр Навумаў добра знаёмы з падследным Ігнатовічам. Былы следчы пракуратуры Алег Случак адначасова абвінавачваў Сівакова, Шэймана і Навумава ў стварэнні «эскадрона смерці», на сумленні якога — забойствы Захаранкі, Ганчара, Завадскага і яшчэ дзясяткаў чалавек. Два гэтыя інтэрв'ю былі сінхронна распаўсюджаныя па электроннай пошце.

**«НН». № 25. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7307.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 21.06.2011.
Замова № 2927.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614